№1(34)
2002г.
студзень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

*Фотамайстэрні Барысава на мяжы XIX - XX стагоддзяў*

*Чытайце на стар.* **8-9**

## *Дазвольце пакалядаваць, дабра і шчасця пажадаць?!*

*Колькі чалавек жыве на свеце,столькі хочацца яму казкі. У калядныя вечары і ночы і малыя дзеткі, і старыя бабулькі чакаюць нечага незвычайнага. Праўда бабулі заўсёды кажуць, што вось у іх час усё адбывалася больш прыгожа і таямніча. Можа яно і так, але бягуць гады, растуць новыя людзі, і, магчыма, самыя маляўнічыя святы яшчэ наперадзе.*

Падставы для такой надзеі ёсць. Спроба даведацца, як святкуюць Каляды на Барысаўшчыне, дала добры плён. Высветлілася, што ў нашым раёне шмат месцаў, дзе свята жыве: гэта Карсакавічы і Весялова, Ніўкі і Ганцавічы, Аздзяцічы і Глівіна, Навасёлкі і Майсеўшчына, Н.Янчына і Забашавічы, Чарневічы і В.Стахава, Вяляцічы і Мётча.

Звычай святкаваць Каляды перажыў перыяд заняпаду ў савецкі час, але захаваўся і ў апошнія гады набывае новыя рысы. Зразумела, што гады, калі свята лічылася "незаконным", наклалі свой адбітак. Выраслі пакаленні, якім не давodзілася яго па-сапраўднаму адзначыць. Таму зараз патрэбны пэўныя намаганні, каб свята адрадзілася ва ўсёй сваёй прыгажосці і шчырасці.

Як высветлілася, з 6 на 7 студзеня, Каляды ў нас адзначаюцца пераважна ў хатнім коле, а на вуліцы

**(Працяг на стар. 3)**



Калядная "працэсія" ў Вяляцічах







## "Моладзь – гораду"

Барысаўскае тэлебачанне "Скіф" выступіла з ініцыятывай правядзення рэгулярных канцэртаў мясцовых груп моладзі. Спецыяльныя скрынкі прымуць ахвяраванні на карысць горада. Такім чынам мяркуецца павысіць адказнасць моладзі за родны горад.

Першы такі канцэрт адбыўся 23 снежня ў ГДК. Ён сабраў поўную залю гледачоў. За ўваход маладыя людзі плацілі па магчымасці, прыблізна па 500-1000 руб.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Рыхтуюцца да 900-годдзя

Школьныя калектывы горада сур'ёзна рыхтуюцца да юбілею.

У кожнай установе планы падрыхтоўкі прадугледжваюць азеляненне тэрыторыі, стварэнне кветнікаў, навядзенне чысціні, арганізацыю выстаў ды правядзенне іншых мерапрыемстваў.

Таксама прынята рашэнне аб стварэнні на летніх канікулах школьных экалагічных летнікаў. Упрыгожыць, азеляніць горад напярэдадні юбілею – адказная задача гэтых аб'яднанняў.

*М.Пучыла*

## Не сорамна?

З Менску прыйшла вестка аб адабрэнні праекта помніка князю Барысу экспертным саветам пры Міністэрстве культуры РБ. Аўтар пачаў лепку скульптуры ў натуральную велічыню.

Ізноў, як і ў часы не дужа далёкія, барысаўцаў паставілі перад адбыўшымся фактам. Ніхто не падумаў спытацца: а ці падабаецца помнік людзям, якім глядзець на яго кожны дзень, і ці задавальняе гараджан наогул сама ідэя будаўніцтва помніка?

А мо разумней было б да гістарычнай даты рэканструяваць гарадскі музей, пабудаваўшы нарэшце для яго прыстойны будынак і выдзеліўшы грошы на грунтоўныя гістарычныя даследаванні?

Без помніка ўжо нібыта і сорамна сустрэць юбілей. А трымаць у такім стане музей, сэрца гістарычнай памяці горада, не сорамна?

*Е.Гpаковіч*

## Выбухі былі, але акуратныя

Забарона на продаж піратэхнічных забавак напярэдадні Новага года дала свае вынікі. Хоць там-сям гэтай небяспечнай прадукцыяй і гандлявалі, але, мабыць, яе агульная маса не перавысіла крытычную адзнаку. У адрозненне ад папярэдніх гадоў на траўмапункт з гэтай нагоды ў святочную ноч зваротаў не было.

Затое 1 студзеня была зарэгістравана рэкордная колькасць зваротаў па розных іншых прычынах - каля 50. Шмат было розных дробных траўм з прычыны разборак паміж сваякамі, знаёмымі і г.д. – наступствы бурна праведзенага свята.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Жадаеце атрымаць вышэйшую адукацыю ў Барысаве? Калі ласка!

У Барысаўскім дзяржаўным політэхнічным каледжы (былым палітэхнікуме) ўжо даўно прымаліся захады для атрымання статуса вышэйшага каледжа. Прыкладаемыя намаганні не аказаліся марнымі.

18 снежня гэтую навучальную ўстанову наведала камісія на чале з намеснікам міністра адукацыі Беларусі. Яна знаёмілася з яе навучальнай базай. Вынікамі інспекцыі засталіся задаволены ўсе бакі. Па яе завяршэнні было прынята прынцыповае рашэнне аб наданні Барысаўскаму дзяржаўнаму політэхнічнаму каледжу статуса вышэйшага.

У бліжэйшы час павінны быць распрацаваны ўсе неабходныя дакументы для пераходу тутэйшай навучальнай установы ў новы статус. Мяркуецца, што разглядацца і зацвярджацца яны будуць у сакавіку. Афіцыйна ж новы статус політэхнічны каледж будзе насіць з верасня 2002 года.

*Служба інфармацыі «ГБ»*

## Аб'яўлены конкурс

Аддзел адукацыі да 900-годдзя горада аб'явіў конкурс малюнка "Чароўныя фарбы горада".

Конкурс будзе доўжыцца са снежня 2001 г. па сакавік 2002 года. Па яго выніках лепшыя работы будуць прадстаўлены на выставе, а пераможцы ўзнагароджаны.

Аб'яўлена таксама аб падрыхтоўцы да выставы-продажу "Горад майстроў", якая адбудзецца 3 ліпеня 2002 года ў час святкавання юбілею горада.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

*Карэспандэнцкі пункт нашай газеты знаходзіцца па адрасе:* ***пр-т Рэвалюцыі, 33***
*Чакаем вас у* ***аўторак*** *з* ***15*** *па* ***17*** *гадз.,*
*у* ***чацвер*** *з* ***10*** *па* ***11*** *гадз.*
*У гэты ж час тэлефануйце нам па тэлефоне*
***6-35-81***

***Падпісвайцеся на газету "Гоман Барысаўшчыны"!***

***Падпісны індэкс 64184***

***Кошт індывідуальнай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на 1 месяц - **250** руб., на 3 месяцы - **750** руб.
***Кошт індывідуальнай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на 1 месяц - **550** руб., на 3 месяцы - **1650** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на 1 месяц - **350** руб., на 3 месяцы - **1050** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на 1 месяц - **750** руб., на 3 месяцы - **2250** руб.

## *Ад нумара да нумара*

***Прыз***

*Па выніках працы ў 2001 годзе прадпрыемства па выпуску трыкатажных вырабаў "Канстанта" было ўзнагароджана заахвочвальным прызам за добрую якасць прадукцыі. Дыплом і фарфоравую вазу дырэктару прадпрыемства К.Сімановічу ўручыў у Менску прэм'ер-міністр дзяржавы Г.Навіцкі.*

***Семінар***

*Для спецыялістаў бібліятэчнай сістэмы вобласці прайшоў семінар на Барысаўшчыне. Прысутныя пазнаёміліся з работай культурнай сферы раёна, якая вызначаецца багаццем ідэй, навацый, цікавых праграм.*

***Выстава***

*Больш 20 повараў і кандытараў прынялі ўдзел у творчай выставе, якая прайшла напярэдадні Новага года ў рэстаране "Бярэзіна". Асаблівую цікаўнасць выклікалі кулінарныя і кандытарскія вырабы гаспадароў выставы – спецыялістаў рэстарана.*

***Юбілей***

*Калектыў ансамбля песні гарадскога Палаца культуры "Вытокі" адзначыў сваё 15-годдзе. Ансамбль, які добра ведаюць і любяць на Барысаўшчыне, павіншавалі 19 снежня калегі – артысты іншых самадзейных калектываў горада.*

***Кубак гарбаты***

*Улічваючы высокі ўзровень захворванняў школьнікаў, інспекцыя па экалогіі і ахове прыродных рэсурсаў выдзеліла 3 млн.руб на набыццё вітамінных траў для школ горада.*

*У школах будуць арганізаваны фітакуткі, дзе дзеці змогуць атрымліваць карысную травяную гарбату.*

***Чыстка па-італьянску***

*У новым годзе ў горадзе пачала працаваць хімчыстка пад назвай "Лілеяплюс"- сумеснае беларуска-літоўскае прадпрыемства, дзе працуюць адмыслова падрыхтаваныя спецыялісты. Чыстка рэчаў будзе ажыццяўляцца на італьянскім абсталяванні па італьянскай жа тэхналогіі. Цэны на паслугі даволі ўмераныя.*

***"Водар хлеба"***

*Сапраўдны водар свежавыпечанага хлеба можна адчуць у краме з такой назвай, якая адкрылася перад Новым годам ля прахадной хлебакамбіната. У сучасна абсталяваным памяшканні можна набыць гарачы хлеб, тарты, цукеркі, ёгурты і іншыя прадукты.*

***Новая шыльда***

*Жаночы крызісны цэнтр пераўтвораны ў бюро сацыяльнай інфармацыі. З 15 студзеня тут зможа атрымаць бясплатную дапамогу псіхолага і юрыста а таксама сацыяльную падтрымку кожны жыхар горада і раёна.*

***Тушыце святло***

*Міністр энергетыкі Уладзімір Сямашка на прэс-канферэнцыі, якая адбылася 21 снежня ў Менску, абвесціў, што да канца першага квартала тарыфы на электраэнергію для насельніцтва ўзрастуць на 40%.*

***Перамаглі "Вушы"***

*20 снежня ў ГПК каманды клуба вясёлых і знаходлівых трох сярэдніх школ горада змагаліся за першынство. Яно дасталася камандзе "Вушы" з 2-ой школы. "Дыназаўры" 15-ай школы –на другім месцы, "Стопсігнал" з 3-яй школы– на трэцім.*

***Знаходка***

*28 студзеня ў паштовай скрыні ля сталовай №1 камбіната тэкстыльных матэрыялаў была знойдзена граната "Ф-1". Са сталовай былі эвакуяваны людзі, якія адзначалі там надыход Новага года. Спецыяльнай групай небяспечная знаходка была вывезена і знішчана.*

***Служба інфармацыі "ГБ"***



## Дзе дрэвы былі – там будзе газон

Наша газета не раз пісала пра вербавыя насаджэнні каля завода агрэгатаў, пра гісторыю гэтага зялёнага куточка.У апошнія гады вербы сталі засыхаць. Агульнавядома, што дрэвы гэтыя недаўгавечныя і іх трэба замяніць.Напрыканцы снежня камунальная служба горада пачала высечку вербаў.

На запыт рэдакцыі паведамілі, што новых дрэў пасаджана не будзе, а на месцы вербавага масіву будзе створаны зялёны газон. Час пакажа, што лепш: дрэвы ці трава.

*М.Пучыла*

## Цікавы вопыт уфімцаў

Шмат хто з нас настроены супраць высечкі навагодніх елак. І тут да месца ўспомніць башкірскі вопыт.

Напрыклад, жыхары Уфы маюць магчымасць узяць напракат блакітныя елкі. Кожнае дрэўца расце ў гаршку, таму пасля святаў яго можна вярнуць назад і атрымаць палову сваіх грошай.

А пры жаданні блакітную прыгажуню можна пасадзіць на ўласнай дачы.

*М.Пучыла*

## "Барысаўскі прыстанак"

24-27 студзеня ў горадзе пройдзе харэаграфічны фестываль "Барысаўскі прыстанак". Цяпер ён стаў традыцыйным.

Многія творчыя калектывы з Беларусі, Расіі, Прыбалтыкі ўжо прыслалі свае заявы на ўдзел.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## Апошняя сесія года

21 снежня 2001 года ў Палацы культуры адбылася сесія гарадской рады дэпутатаў. Асноўнымі на мерапрыемстве былі пытанні: "Аб кадравай палітыцы ў горадзе" і "Аналіз выканання праграмы развіцця адукацыйных установ да 2005 года ".

***Служба інфармацыі "ГБ"***



## Аварыя на Заводскай вуліцы

Не пашанцавала ў калядны дзень 25 снежня вадзіцелю аднаго з двух чэшскіх грузавікоў, якія дастаўлялі з Чэхіі ў Маскву гандлёвае абсталяванне і сантэхніку. На Заводскай вуліцы з-за няспраўнасці ў электраправодцы аўтамабіль на хаду загарэўся. Вадзіцель, які спрабаваў патушыць агонь самастойна, атрымаў апёкі і быў адвезены хуткай дапамогай у шпіталь. Ліквідаваць аварыю прыбылі выратавальнікі МНС. У аўтамабіля выгарэла кабіна і амаль увесь кузаў. Груз таксама быў моцна пашкоджаны.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## Цудоўная акцыя

Міжнародная хрысціянская місія правяла напярэдадні Новага года вельмі карысную акцыю: многім гарадскім школьнікам у якасці падарунка былі ўручаны кнігі Біблії.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## За мяжу -толькі з пашпартам узору 1996 года

Напрыканцы старога года ў прэсе час ад часу з'яўляліся паведамленні, што з пачатку новага года пашпарты старога ўзору стануць несапраўднымі.

Пакуль што ніякіх распараджэнняў наконт адмены старых пашпартоў у пашпартна-візавую службу горада не паступіла. Але Дзяржаўны камітэт памежных войск краіны ўжо абвесціў, што пры паездках за мяжу з 1 студзеня 2002 года сапраўдны толькі пашпарт узору 1996 года.

Супрацоўнікі ПВС Барысава запрашаюць усіх, хто яшчэ не абмяняў пашпарт савецкага часу на новы, зрабіць гэта неадкладна, каб пазбавіць сябе ад шэрагу праблем. Кошт абмену на сённяшні дзень - 3 тысячы рублёў, тэрмін - 1 месяц.

У візавым рэжыме, у прыватнасці ў выпадку выезду ў Польшчу і на Украіну, змен пакуль што не адбылося.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## Змена кіраўніцтва ПВС



Са студзеня новага года прыступіў да выканання сваіх абавязкаў новы начальнік пашпартна-візавай службы горада падпалкоўнік міліцыі Каршуноў Аляксандр Аляксеевіч.

Раней А.А.Каршуноў працаваў на пасадзе старэйшага следчага па асабліва важных справах Барысаўскага аддзела Крымінальна-следчага камітэта Менскай вобл. Аляксандру Аляксеевічу 44 гады, жанаты, мае двух сыноў.

Былы начальнік ПВС Шарко Юрый Сцяпанавіч прызначаны намеснікам начальніка ГАУС г.Барысава.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## За даведку будзем плаціць

Рыначныя адносіны ўсё больш шчыльна ахопліваюць розныя бакі нашага жыцця. Скончыўся час, калі мы бясплатна атрымлівалі даведку ў родным ЖЭУ. Яшчэ ў жніўні мінулага года выканкам даў дазвол на выдачу насельніцтву ўсіх даведак за плату.

З новага года даведка з месца жыхарства абыдзецца ў 207 руб., аб складзе сям'і - у 401 руб., за даведку аб жыллёвых умовах трэба заплаціць 802 руб. Ад аплаты вызвалены непрацуючыя пенсіянеры, інваліды 1-3 груп, шматдзетныя маці.

Плаціць за даведку трэба будзе ў ашчадным банку, а ўжо потым, з квітком, - у ЖЭУ. Вось набегаемся!

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## Прыстойныя справы для прыстойных мужчын

На сур'ёзную справу нельга хадзіць па-аднаму. Гэтак, мабыць, вырашылі тры дзецюкі, калі марознай ноччу 2 студзеня ішлі рабаваць 70-гадовую пенсіянерку з вуліцы Батурына, у якой "путём вырывания пробоя" з хлява ў двары дома скралі 7 курыц. Прыстойная справа для 27-гадовых мужчын.

Не менш "геранчна" павялі сябе два браты 20 і 22 гадоў ад роду, калі прыйшлі да сваёй знаёмай і папрасілі паесці. Дзяўчына накарміла іх хлебам з салам. Праз гадзіну яны вярнуліся і з дапамогай сцізорыка адабралі 300 г сала, магнітафон і торбу гаспадыні. Потым, кажучы словамі міліцэйскага пратакола, "принятыми ею мерами вещи были ею отняты".

Але ў міліцыю дзяўчына ўсё ж такі звярнулася. І варта. "Гераізм" маладых людзей павінен быць ацэнены па заслугах.

*Е.Гpaковіч*

## Змяніў месца жыхарства

Напярэдадні Новага года выехаў у Ізраіль былы дырэктар спартшколы №1 Мазуркевіч Я.Ф. – заслужаны трэнер рэспублікі.

Трэба сказаць, што менавіта яго намаганнямі ўзнікла і шмат чаго дабілася гэтая ўстанова.

***Служба інфармацыі "ГБ"***





*Калядаванне ў Вяляцічах: "Ці можна ў вас пакалядаваць, дабра і шчасця пажадаць?"*

*Спяваюць і танчаць калядоўшчыкі гурта "Вытокі" (злева)*

*Якое калядаванне без гадання? (справа)*



# Дазвольце пакалядаваць, дабра і шчасця пажадаць?!

*(Працяг, пачатак на стар. 1)*

выходзяць зрэдку. Ва ўсякім выпадку, сябрам рэдакцыі, прaехаўшы вечарам 6 студзеня праз цэлы шэраг вёсак, не давялося сустрэць ніводнай калядной працэсіі. У вокнах хатаў свяціліся прыгожыя елкі, адчувалася, што людзі адзначаюць Раство, але на вуліцах сустракалася толькі моладзь, якая накіроўвалася на дыскатэкі.

Можа гэта і натуральна, бо ў гэты вечар адбываецца сямейная перадкалядная вячэра, якая завецца "беднай" ці "поснай" куццёй. Стол у гэты вечар сціплы. У час вячэры прынята памінаць тых блізкіх, хто адышоў у іншы свет.

А вось праз тыдзень, у час "багатай" ці "шчодрай" куцці карціна атрымалася ўжо іншая. Шмат у якіх вёсках гучала: "Добры вечар, шчодры вечар!".

Дзеля аб'ектыўнасці трэба адзначыць, што самыя актыўныя калядаванні праводзяцца ўдзельнікамі фальклорных гуртоў, на якія багата наша Барысаўшчына. Добра гэта ці не? На нашу думку, гэта выдатна. Бо такія гурты не проста ідуць па вёсцы і збіраюць даніну, як гэта часта зараз здараецца. Яны здольныя паказаць у час калядавання ўсё багацце нашага, назапашанага за стагоддзі, фальклору, прыгожа і прафесійна правесці абрад, а паколькі гурты складаюцца са сваіх жа вяскоўцаў, то ўсё праходзіць шчыра і натуральна, без усялякай заарганізаванасці.

Такое, прынамсі, у сяброў рэдакцыі склалася ўражанне, калі нам пашчасціла прайсціся з калядоўшчыкамі па двух нашых багатых на добрыя традыцыі вёсках: па Вяляцічах і Мётчы.

У Вяляцічах хадзілі калядаваць удзельнікі фальклорнага гурта "Вытокі" (кіраўніцы Стальнікoвіч Людміла Сяргееўна і Цішкавец Наталля Цімафееўна). Прыгожыя строі, выдатныя галасы, цудоўны музыка. Былі сярод калядоўшчыкаў і белы конь, і чарнавокая цыганка, і Дзед Мароз, які насіў калядную зорку, і Снягурка, і, безумоўна, непараўнальная каза. Падышоўшы пад хату, спявалі, просячы дазволу зайсці. Увайшоўшы ў хату, спачатку ўслаўлялі гаспадара : "Добры вечар, пане гаспадар, харошыя маеш ты сыночкі, ой каляда!...", гаспадыню: "Добры вечар гаспадынечка, што ў цябе за маліначка!...", "Гаспадынечка-перапёлачка, у цябе сырнічкаў поўна полачка!". Жадалі, "каб у Вашай хаце заўсёды было што даці", спявалі, танчылі, а потым з'яўлялася каза, і, пацешыўшы трохі публіку, валілася на падлогу. Пачыналі тут казу ратаваць. Выдатна, што ў абрадзе прымалі ўдзел і гаспадары. Адчувалася, што не першы раз завітвае да іх калядоўная працэсія, і яны ведаюць, што трэба сказаць і як тую хітрую казу ратаваць. Але і калядоўшчыкі не забываліся патлумачыць, што "каб казанька ўстала, трэба даці кавалачак сала, а на рожанькі – два піроженькі, а на хвасточак – каўбаскі кусочак, а на капытцы – агнявой вадзіцы."

Цыганка гадала на шчасце, Дзед Мароз і Снягурка жадалі добрага новага года. Шчодра дзякавалі гаспадары, і мех казы хутка поўніўся.

Было бачна, што тут, у Вяляцічах, склаліся ўжо сталыя традыцыі свята. І не дзіўна, бо такім чынам Каляды адзначаюць тут ужо дванаццаты год.

Калядоўшчыкі хадзілі па вёсцы з прыцемкаў і аж да поўначы.

У Мётчы калядавалі адразу некалькі груп, у тым ліку і дзіцячых. З прыязнасцю сустракалі іх у кожнай хаце, дзякавалі, што завіталі да іх.

Нам давялося пакалядаваць з гуртом "Калінушка"(кіраўніца Кажэўка Людміла Уладзіміраўна). Галасістыя, прыгожа апранутыя дзяўчаты хадзілі з Дзедам Марозам, цыганкаю, казой і чорным, з доўгім хвастом, чортам.

Дзед Мароз, пачынаючы абрад, казаў, што "мы люд няпросты, ідзём з-за бугра да пана Лета." Спявалі, скакалі, сыпалі зерне, жадаючы, "хай уродзіць жыта, каб сям'я была сыта", " каб было і ў лыжцы, і ў місцы, і ў калысцы". І, вядома, прасілі палячыць казу, кажучы:"Ёй многа ня трэба: паўбочкі грэчкі на перапечкі, рэшата аўса, а наверх – каўбаса, а галоўнае, сала, каб каза ўстала". Цыганка падавала місу з зернем, прапанавала з яе выцягнуць, каму што пашчасціць: каму дастаўся ўнук, каму - грошы.

Паднашэнні збіраў Дзед Мароз у вялікую чырвоную торбу. З гэтай жа торбы ён і сам частаваў дзетак. А дзетак, трэба з прыемнасцю адзначыць, у Мётчы багата.

У клубе тым часам быў накрыты шчодры стол і гаспадар з гаспадыняй, ролю якіх выконвалі Безручонак Пётр Іванавіч і Касцюкевіч Таццяна Сяргееўна, сустракалі гасцей, якіх было нямала. У клуб сышліся вяскоўцы, каб і на калядоўшчыкаў паглядзець і самім паспяваць ды патанчыць.

Абрад калядавання паказалі школьнікі гурта "Берагіня", гурт "Калінушка". На ганаровым месцы за сталом сядзела "Мядоцкая талака" – гурт бабуль з мётчанскага наваколля, галасам якіх можа пазайздросціць любы малады калектыў. Мётчанскія дзеткі выдатна танчылі польку, "Лявоніху". Не адставалі ад іх і мажныя кабеты.

Трэба было бачыць, якая цікаўнасць свяцілася ў вачах дзяцей і той і другой вёскі, калі да іх заходзілі калядоўшчыкі. Будзем спадзявацца, што дзеткі нашыя, якія з маленства прымаюць удзел у адраджэнні добрай традыцыі, не дазволяць ні розным палітычным завеям, ні знішчальнаму подыху мас-культуры пазбавіць беларускаў свята, звычай спраўляць якое ідзе з сівой даўніны.

***Старонку падрыхтавалі М.Мацельскі, Е.Граковіч***





*Спевы і танцы калядоўшчыкаў узнагароджваюцца дарамі або застоллем*



*Калядная працэсія гурта "Калінушка" ў Мётчы (злева)*

*Калядны абрад у выкананні гурта "Калінушка" ў Мядоцкім доме культуры (знізу)*



*Спявае фальклорны гурт "Мядоцкая талака" (зверху)*

*Калядаваннем задаволены ўсе: калядоўшчыкі, гаспадары, а найперш - іх дзеці (злева)*

*Калядуе мядоцкая моладзь (знізу)*





# Знішчылі традыцыі – знішчылі галіну

*У тутэйшых харчовых крамах усё болей становіцца чужых прадуктаў, у прыватнасці, расійскіх. Яшчэ нядаўна, калі Беларусь з'яўлялася адным з асноўных пастаўшчыкоў сельскагаспадарчых прадуктаў у іншыя рэгіёны былой савецкай імперыі, гэта ўявіць было проста немагчыма.*

На жаль, параўнанне тэндэнцый і зменаў у стане сельскай гаспадаркі ў нашай дзяржаве з бліжэйшымі суседзямі не надае аптымізму.

У чым прычына? Не будзем чапаць эканамічны бок гэтага пытання. Але паглядзім, якія ў гэтым плане мы мелі больш глыбокія традыцыі. Ці захавалі мы іх? Пра старую тутэйшую культуру сельскагаспадарчай вытворчасці мы ведаем яшчэ меней, чым пра спрадвечную беларускую культуру наогул. У свядомасці большасці жыхароў нашага краю мясцовы сельскагаспадарчы вытворца ў старыя часы – гэта гаротны селянін у лапцях з матыкай або сярпом у руках, які ад ранку да заходу стогне на полі ад цяжкай фізічнай працы і прыгнёту ўсіх, каго толькі можна сабе ўявіць.

Пра абсурднасць такога стэрыятыпу можна даведацца ў любой з вёсак Барысаўшчыны, дзе яшчэ добра памятаюць пра былыя часы і парадкі пры "панах", пра тое, як тады жылі.

Вельмі цікавыя і шмат для каго нечаканыя звесткі пра тутэйшую культуру вядзення сельскагаспадарчай вытворчасці утрымліваюцца на старонцы XXII ва ўступных тлумачэннях да кнігі "Списокъ землевладельцевъ Минской губерніи за 1876 годъ", якая была выдадзена ў 1877 годзе. Там, у прыватнасці, гаворыцца, што "... нягледзячы на параўнальна горшыя ўмовы ўрадлівасці глебы ў Менскай губерні, чым ва ўсходніх або паўднёва-ўсходніх губернях, сельская гаспадарка і даходы маёнткаў у Менскай губерні значна лепей і болей, чым у іншых губернях Расіі... У большасці маёнткаў частка працоўных рук заменена машынамі амаль ва ўсіх галінах земляробства, у выніку чаго можна прыйсці да высновы, што ў гэтых адносінах губерня не адстае ад прагрэсіўных паляпшэнняў, якія з'яўляюцца прыкметай любой гаспадаркі, якая мае рацыянальны пачатак".

Нельга быць культурным у чымсьці і бескультурным ва ўсім астатнім. Таму на пытанне, якое часта зараз задаецца: "Што трэба адраджаць раней, культуру (ці мову, як яе элемент) або эканоміку?", адказ мусіць быць просты. Без адраджэння культуры ў шырокім сэнсе, у тым ліку культуры наогул і культуры вытворчасці ў розных галінах у прыватнасці, мы ніколі не адродзімся.

А багатыя традыцыі культуры ва ўсіх праявах жыцця ў нас ёсць. Да іх трэба толькі павярнуцца тварам.

*В Стэфановіч*

# Забавы нашых дзяцей

*На жаль, забавы нашых дзяцей усё больш аддаляюцца ад здаровага ладу жыцця. Кампутар, дыскатэка, тэлевізар. Праўда, у нашых барысаўскіх хлапцоў ёсць гульня, якая кранае амаль усіх, – футбол. Але зіма са снегам і марозам і гэтае захапленне робіць віртуальным: юныя аматары глядзяць матчы па тэлевізару, гуляюць у кампутарныя гульні, гартаюць старонкі спартыўных часопісаў.*

Няблага выглядае Барысаў у зімовым убранні. Свецяцца прыгожыя елкі, палацы культуры і кінатэатры запрашаюць на дыскатэкі ды навагоднія прадстаўленні.

– А як дапамагае горад дзецям і дарослым у іншых вясёлых, карысных для здароўя захапленнях?

Людзі больш сталага ўзросту магчыма, памятаюць, колькі раней у нашым горадзе было асветленых хакейных пляцовак, на якіх у добрым стане па працягу ўсёй зімы падтрымлівалася лёд, куды хадзілі гуляць у хакей і проста катацца на каньках. Дзе яны цяпер? Памятаю, як дзяўчынкамі беглі мы хутчэй дахаты, каб зрабіць урокі, а пад вечар – на каток. Кожны дзень! Дзе не было катка, чысцілі пляцоўкі на азёрцах у пойме Бярэзіны ды на сажалках.

Не кожная сям'я зараз можа прыдбаць лыжы. Дзе ў нашым горадзе можна ўзяць іх напракат, каб правесці выхадны дзень у зімовым лесе?

Вядома, зіма ў нашых краях капрызная і не заўсёды дорыць нам столькі снегу, як сёлета. Але і раней мы не на поўначы жылі. А колькі было ў горадзе і за горадам лыжнікаў, колькі цікавых зімовых вандровак!

У школе заняткі на лыжах былі абавязковымі. Калі не хапала школьных лыжаў, неслі з дому. Цяпер такія заняткі ўжо не правіла, а выключэнне з яго.

Многа моладзі выйшла ў навагоднюю ноч на вуліцы горада, цэнтральная плошча была поўная амаль да самай раніцы. Але чым займалася моладзь? Грэла сябе спіртным ды пуляла ў паветра непапашаную кітайскую піратэхніку.

Адчувалася, што маладыя людзі не хочуць у святочную ноч разыходзіцца па душных пакоях, а чым заняць сябе – не ведаюць і не ўмеюць. Ні песень добрых, ні танцаў, ні гульняў…

А каб на той жа цэнтральнай плошчы быў заліты добры каток ды працаваў пункт пракату, дзе можна было б узяць канькі, санкі, дый каб яшчэ пара – другая коней пакатала дзяцей і дарослых па горадзе ў вазках. А з раніцы б горад прачнуўся – дый на лыжы!

А горад прачнуўся – дый пачаў пахмяляцца. Дзеткі ж нашы тым часам селі перад блакітнымі экранамі. А што ім яшчэ рабіць?

*Е.Граковіч*



БОРИСОВСКОЕ

Борисову 900 лет

## Да якога свята рыхтуемся?

Да 900-гадовага юбілею ЗАТ "Барысаўдзетспецпрадукт" пачало выпуск эскімо з назвай "Борисовское". Каляровая абгортка новага марожанага вельмі прыгожая, але малюнак на ёй выклікае супярэчлівыя думкі.

Якім чынам герб горада апынуўся ў атачэнні нейкай псеўдаімперскай сімволікі ?

Што мы збіраемся святкаваць: юбілей спрадвечнага беларускага горада ці павятовага гарадка Расійскай імперыі? На такую думку наводзіць намаляваная на абгортцы карона, гарнастаевыя мантыі, ільвы і, урэшце, мова, на якой зроблены надпісы.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Высокая якасць "Фрэбара"

У снежні дырэктар сумеснага беларуска-германскага прадпрыемства "Фрэбар" П.Д. Каралько атрымаў прэмію з рук прэм'ер-міністра за высокую якасць заводскай прадукцыі. І, трэба сказаць, увага да прадпрыемства цалкам апраўдана.

Тут выпускаюць медыцынскія вырабы і расходныя матэрыялы для гемадыялізу, а калі прасцей – для ачысткі крыві ад шлакаў і шкодных рэчываў у хворых ныркавай недастатковасцю.

Таму асноўны від прадукцыі – дыялізатары, праз якія якраз і фільтруецца кроў, называюць яшчэ "штучнай ныркай". Праектная магутнасць – 2 мільёны дыялізатараў у год. Сёлета ж іх будзе выраблена 3 мільёны. Пашыруйся і асартымент: калі праектам прадугледжвалася 3 віды дыялізатараў, то сёння вырабляецца 6. Наогул, за кошт мадэрнізацыі абсталявання, іншых праведзеных мерапрыемстваў увесь аб'ём вытворчасці вырас у два разы.

Трэба дадаць, што ўся прадукцыя сертыфікуецца міжнароднай арганізацыяй, а 85 % прадукцыі ідзе за межы краіны.

*М.Пучыла*

# Ёгурт з лыжкай дзёгцю

У хуткім часе барысаўцы змогуць пакаштаваць свой, барысаўскі ёгурт: малочны камбінат на сучасным абсталяванні пачынае выпуск ёгуртаў у пласцікавых слоіках. Смак новай прадукцыі яшчэ будзе ацэнены гараджанамі, але лыжка дзёгцю ў прыемнай навіне ўжо прысутнічае: у адрозненне ад калег з Клецка, Капыля, Вілейкі, Нясвіжа барысаўскія майстры сваю прадукцыю афармляюць на рускай мове. Назва новага тавара - "Йогурт для крепышей". На рускай мове пададзена і ўся інфармацыя пра якасць новага прадукта.

Думаецца, што такое афармленне не будзе спрыяць збыту барысаўскага ёгурта, бо многімі ён будзе прымацца за расійскі тавар, а любы прадавец скажа, што мяса-малочная прадукцыя расійскага паходжання не карыстаецца попытам барысаўскіх гаспадынь.

*Е.Граковіч*

# Дзецям – найлепшае: спірт, каньяк?!

Напярэдадні навагодніх святаў у Барысаве распаўсюджвалася шмат розных дзіцячых навагодніх падарункаў з цукеркамі. Афармленне большасці з іх цешыць вока спажыўцоў і прыцягвае да сябе ўвагу. Аднак пасля знаёмства са зместам асобных з іх узнікае шмат пытанняў. Гэта, у прыватнасці, датычыцца навагодняга дзіцячага падарунка "Клубнічка", які выраблены на менскай фабрыцы "Камунарка".

Сярод прадуктаў, з якіх выраблены цукеркі, можна ўбачыць каньяк, спірт, віно "Вермут". Што гэта: прывучэнне дзяцей да гарэлачных вырабаў або спроба паказаць ім, што гарэлачныя вырабы трэба спажываць толькі з закускай?

*Служба інфармацыі "ГБ"*

масло сливочное, лецитин
коньяк, спирт, вино «Вермут»,
…альным, красители пище…

ДЕТСКИЙ НОВОГОДНИЙ ПОДАРОК

«КЛУБНИЧКА» ДЕТСКИЙ НОВОГОДНИЙ ПОДАРОК

27 НОЯ 2001

Конфеты
Чебурашка 70 г.
Березка 70 г.
Ласточка 75 г
Грильяж в шоколаде 70 г
Троицкое предместье 70 г
Купалинка 60 г
Веселые музыканты 1/25 - 1 шт.
Бременские музыканты 40 г
Вечерний Минск 40 г
Карамель
Апельсин 35 г
Клюквенный ликер 45 г

Шоколад
Аленка 1/50 - 1 шт.
Коммунарка 1/50 - 1 шт.

Масса нетто 700 г

Состав: сахар, кондитерский жир, какао тертое, патока, ядро фундука, вафельный лист, какао масло, молоко сгущенное с сахаром, молоко сухое, молочный сахар, какао порошок, сливки сухие, зерно … молотое, пюре яблочное, пюре клюквенное, масло кокосовое, подварка мандариновая, масло сливочное, лецитин (Е322), кислота лимонная (Е 330), припас апельсиновый, коньяк, спирт, вино «Вермут», кислота молочная, ванилин, ароматизаторы идентичные натуральным, красители пищевые (Е102, Е122).
В 100 г продукта содержится: белка - 4,2 г, жира - 26,0 г, углеводов - 61,4 г
Энергетическая ценность 400 Ккал
Хранить при температуре 15-21 С, относительной влажности 75%
Срок годности в течение 3 месяцев
ГОСТ 4570, 6477, 6534.
Дата изготовления:

# З дзесяці выжыў толькі адзін

*Шэсць дзесяцігоддзяў мінула ад пачатку другой сусветнай вайны, а яна ўсё нагадвае пра сябе цяжкімі ўспамінамі, болем і хваробамі тых, хто яе перажыў.*

*Эдуард Пятровіч Гедройц патрапіў за калючы дрот у тым пяшчотным узросце, калі немаўлятка толькі-толькі пачынае асэнсавана ўспрымаць жыццё – у паўтары гады. Першыя ўражанні ад жыцця атрымаў на чужой зямлі, сярод змучаных, галодных і прыгнечаных людзей. Вярнуўся на радзіму разам з маці пасля заканчэння вайны.*




*Старшыня асацыяцыі малалетніх вязняў Эдуард Пятровіч Гедройц зараз (злева) і з маці ў 1945 годзе ў Варшаве ў час вяртання на радзіму (справа)*

Больш за мільён дзяцей і падлеткаў было ўгнана ў канцлагеры і асуджана на нявольніцтва. Дзяцей рабілі заложнікамі, прымусовымі донарамі, біялагічнай сыравінай для злачынных эксперыментаў і стэрылізацыі. Дзецьмі прыкрываліся адступаючыя фашысцкія войскі, іх пасылалі на мінныя палі і дарогі. На іх вачах расстрэльвалі родных. Толькі адзін з дзесяці ўгнаных у канцлагеры дзяцей выжыў і быў вызвалены.

Падраслі, наладзілася звычайнае жыццё. Амаль паўстагоддзя ніхто не ўспамінаў пра іх скалечанае дзяцінства.

Толькі ў апошняе дзесяцігоддзе дзесяткі тысяч малалетніх вязняў адчулі ўвагу да сябе з боку дзяржавы і грамадства. Упершыню яны былі прызнаны пацярпелымі і атрымалі шэраг ільгот.

У 1992 годзе на канферэнцыі ў Днепрапятроўску быў створаны Міжнародны саюз былых малалетніх вязняў фашызму, у які на сённяшні дзень уваходзяць Нацыянальныя саюзы Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Латвіі, Літвы, Малдовы, Расіі, Узбекістана, Украіны, Эстоніі. У горадзе Улан-Удэ раз у два месяцы выдаецца газета Міжнароднага саюза "Лёс", якую атрымліваюць цяпер і ў Барысаве.

*3-гадовая Таня побач з памёрлай маці. Лагер Азарычы Гомельскай вобл., 1944 год. (Здымак фатографа Падшывалава з Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь)*



З 1993 года першыя выплаты пачала рабіць Германія, кампенсуючы грашыма тое, што было адабрана ў іх. Але не ўсё вернеш грашыма. Атручаная радасць маленства, падарванае здароўе, сны, у час якіх прыходзяць з далёкага мінулага жудасныя здані, сіроцтва.

У пачатку 1999 года пасля некалькіх месяцаў, праведзеных у шпіталі з прычыны абшырнага інфаркта, Эдуард Пятровіч вырашыў сабраць вакол сябе людзей, якім на долю выпаў такі самы лёс.

Яны знайшліся літаральна па суседству. Хахлова Раіса Гіляраўна і Чэмярук Валянціна Уладзіміраўна пяцігадовымі дзяўчынкамі патрапілі ў няволю. ВязеньБухенвальда Каспяровіч Аляксандр Сцяпанавіч быў у час вайны юнаком, а Яроцкая Раіса Якаўлеўна нарадзілася ў няволі. Паркулевічу Міхаілу Альбінавічу і Ушацкаму Яўгену Мікалаевічу было ў момант вызвалення па пятнаццаць гадоў. Самыя залатыя хлапчуковыя гады яны правялі сярод гора і смерці.

Сустрэліся, пачалі шукаць кантакты ў Менску. Цераз бюро давядак Эдуард Пятровіч атрымаў адрас арганізацыі, якая аб'ядноўвае былых малалетніх вязняў Беларусі: БАБМВФ. Новая суполка далучылася да ўсебеларускай асацыяцыі, якую ўзначальвае былая вязніца Ніна Анатольеўна Лыч.

Першы сход малалетніх вязняў у нашым горадзе адбыўся 26 сакавіка 1999 года. На яго сышлося каля 30 барысаўцаў. Праз месяц прадстаўнікі нашага горада прынялі ўдзел у Другой міжнароднай канферэнцыі малалетніх вязняў, якая праходзіла ў Менску.

Паступова прыходзіла перакананне ў неабходнасці і карыснасці пачатай справы. Да створанай арганізацыі пачалі далучацца і былыя вязні, якія перажылі палон у дарослым узросце. На сённяшні дзень арганізацыя налічвае каля 100 сяброў. Старэйшая з вязняў нарадзілася ў 1908 годзе, наймалодшая – у 1945. А ўсяго, як паведаміў Эдуард Пятровіч, у нашым горадзе жыве 1200 былых вязняў.

Тыя, хто аб'яднаўся вакол створанай арганізацыі, адчуваюць, што жыццё іх набыло новы сэнс. Былыя вязні могуць сабрацца, выгаварыцца, пайсці разам да помнікаў ахвярам фашызму выказаць пашану іх памяці. На схіле жыцця яны знайшлі аднадумцаў і вельмі ўдзячны неспакойнаму свайму кіраўніку за ідэю пазнаёміць і аб'яднаць іх.

Былыя вязні атрымалі магчымасць разам адстойваць свае правы, на якія апошнія гады ўладныя структуры пачалі забывацца. Паступова ўразаецца ўзровень ільгот, усё цяжэй атрымаць напрамак у Менскі шпіталь на лячэнне.

Праз некалькі месяцаў пасля стварэння асацыяцыі яе сябры склалі зварот да кіраўнікоў дзяржавы і амбасады Германіі, у якім гаварылася пра неабходнасць не забываць на лёс малалетніх вязняў і выказваліся канкрэтныя прапановы. Іх голас далучыўся да голасу былых вязняў усёй Беларусі і іншых краінаў, што паспрыяла таму, што ў траўні-чэрвені 2001 года бундэстагам Германіі было прынята рашэнне аб стварэнні і пачатку функцыянавання фонда "Памяць: адказнасць і будучыня". Са сродкаў фонда былым вязням фашысцкіх канцлагераў і людзям, якія былі ўгнаныя на прымусовыя работы, будуць выплачаны кампенсацыі больш значныя, чым першыя, якія былі даволі сімвалічнымі. Выплата іх ужо пачалася ў 2001 годзе і будзе працягвацца да 2004 года.

Але не толькі матэрыяльны бок пытання хвалюе людзей. Сам факт стварэння такога фонда праз некалькі дзесяцігоддзяў пасля заканчэння вайны - урок гісторыі, які кажа пра тое, што пакуты дзяцей-безвінных ахвяр усіх войнаў - не павінны паўтарацца і не павінны быць забытыя. Гэта вельмі важна, улічваючы, што і ў сённяшнім свеце дзеці зноў і зноў становяцца бежанцамі, заложнікамі, гінуць у полымі міжнацыянальных канфліктаў і войнаў у розных кутках планеты.

Увага да людзей з такім лёсам мае вялікае выхаваўчае значэнне для моладзі, якая павінна адчуваць трагічнасць і недапушчальнасць ваенных канфліктаў.

Па рознаму ў нашым горадзе ставяцца да былых вязняў фашызму. Кіраўніцтва горада не знаходзіць патрэбным дапамагчы асацыяцыі з памяшканнем, збіраюцца былыя вязні на кватэры кіраўніка. Не знайшлі яны падтрымкі і ў Савеце ветэранаў вайны, што здаецца вельмі дзіўным. Каму, як не былым воінам, лепш ведаць пра пакуты дзяцей у час вайны.

Уважліва паставіліся да сціплай просьбы былых вязняў дапамагчы адзначыць Дзень вызвалення вязняў (11 красавіка) на такіх прадпрыемствах, як "Паліміз", хлебакамбінат, малочны камбінат, завод безалкагольных напояў, "Барысаўдрэў".

Адчуваюць спагаду і падтрымку былыя вязні ў мясцовых СМІ, у прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, у многіх грамадзян горада. Хацелася, каб не забываліся на гэтых людзей у школах і іншых навучальных установах горада. Сустрэчы з імі маглі б быць вельмі цікавымі і карыснымі як для вучня, так і для сябраў арганізацыі.

*Барысаўцаў і жыхароў раёна, тых, хто прайшоў праз выпрабаванні ў канцлагерах і на прымусовых работах у Германіі, у краінах-саюзніцах рэйха, на тэрыторыях усіх акупаваных дзяржаў, чакаюць у асацыяцыі малалетніх вязняў.*

*Кантакты тэлефон 3-96-68.*

***К.Сушынская***

# Не магу забыць адзін выпадак…

Ехала я ў аўтобусе. Супраць мяне сядзела маладая пара: ёй гадоў дваццаць, яму крыху болей. Яны весела размаўлялі паміж сабой і з маладым чалавекам, які стаяў побач.

Да іх падышла старэнькая бабулька. Адной рукой яна трымалася за ручку іх сядзення, у другой трымала цяжкую сумку. Маладыя людзі бачылі яе, але месца не ўступілі. Юнак працягваў весела размаўляць, а дзяўчына яшчэ мацней трымала яго за руку, як бы баючыся, што ён устане і пакіне яе адну. З суседняй лаўкі падняўся палкоўнік і ўступіў бабульцы месца.

Усе, хто назіраў за гэтай сцэнай, з дакорам пагледзелі на маладых людзей, асабліва на юнака. Але яму хоць кол на галаве чашы. Ён па-ранейшаму весела працягваў размаўляць са сваёй сяброўкай. Дзяўчыну, відаць, таксама ніколькі не хвалявала, што яе сябар не ўступіў месца, у той час як чалавек у гадах зрабіў гэта.

Я падумала: "Вось з чаго пачынаецца ў чалавеку грубасць." І яшчэ была думка: "Калі б дзяўчына была разумнай, яна б устрывожылася. Але яе, відаць, не займалі разумныя думкі, яна была шчаслівая, больш яе ніхто і нішто не цікавіла".

Вялікую памылку зрабіла гэтая дзяўчына, не ўбачыўшы ў свайго сябра, а мо і жаніха, бяздушнасці да старога чалавека. Паступіўшы так сёння з незнаёмым чалавекам, ён заўтра паступіць так з яе маці, а затым і з ёй самой. Потым яна будзе шчыра здзіўляцца, чаму ён да яе змяніўся, хоць раней быў такім уважлівым.

Чалавек не нараджаецца грубіянам, хамству ён навучаецца ад тых, хто побач. Некалі маці дазволіла свайму сыну праявіць грубасць, а сястра, а потым нявеста, а потым жонка не заўважылі грубасці блізкага чалавека да другіх. І толькі грубасць яго да сябе абурыла іх. Ды позна. Грубасць стала рысай характару, зброяй абароны і нападу.

Калі б дзяўчына абурылася паводзінамі сябра і сама ўстала дэманстратыўна, падкрэсліўшы яго нявыхаванасць, ён бы запомніў гэта на ўсё сваё жыццё і ў другі раз так бы не паступіў.

***С.Смольская***

# "Неразлучныя сябры – дарослыя і дзеці"

Пад такой назвай прайшло нядаўна ў Жыцькаўскай школе спаборніцтва, якое прыйшлося да спадобы як яго ўдзельнікам, так і гледачам.

Змагаліся 2 каманды: каманда вучняў 5-9 класаў пад назвай "Next" і каманда іх бацькоў "Кеды". Гледачы актыўна падтрымлівалі каманды галасам і плакатамі.

Бацькі выдатна справіліся з конкурсам "Непагадзь", дзе трэба было праскакаць у галёшы пад парасонам і з конкурсам "Хто хутчэй апране дзіцё". Але ў музыкальных і спартыўных спаборніцтвах дзеткі ўзялі рэванш. Прычым яны выдатна танчылі не толькі пад сучасныя рытмы, але і пад рытмы маладосці сваіх бацькоў.

Хаця бацькі і змагаліся пад задзірыстым лозунгам "Надзень старыя кеды – успомні пра старыя перамогі", перамога дасталася малодшаму пакаленню, што бацькоў, безумоўна, толькі парадавала.

Напрыканцы былі ўзнагароды: смачныя шакаладныя медалі і экзатычныя фрукты.

***Г.Касінская***

# Адраджаецца добрая справа

Супрацоўнікі гарадскога камітэта таварыства Чырвонага Крыжа пачынаюць навучэнне школьнікаў з мэтай стварэння ў кожнай гарадской школе пяці санітарных пастоў.

Справа гэта не новая, практыка падрыхтоўкі такіх пастоў існавала раней на працягу многіх гадоў.

Вучні 5-10 класаў, якія праявяць цікаўнасць да гэтай карыснай справы, пройдуць адмысловую 10-гадзінную падрыхтоўку, у час якой навучацца прыёмам першай медыцынскай дапамогі, атрымаюць веды па правядзенню санітарна-гігіенічных і супрацьэпідэмічных мерапрыемстваў.

Для кожнага юнага медыка адміністрацыяй школ будзе падрыхтавана санітарная сумка з неабходнымі лекамі і перавязачным матэрыялам.

***Служба інфармацыі "ГБ"***


Зіма ў наваколлях Барысава

# Зімой жыццё не спыняецца

З надыходам халадоў збіраюцца ў невялікія статкі, кормяцца маладымі парасткамі, карой асіны, вярбы, рабіны, крушыны, чаромхі, выкопваюць з-пад снегу леташнюю траву, мох, карані лісцёвых і хвойных дрэў. Мядзведзі, барсукі, янотападобныя сабакі, вожыкі, кажаны зараз у глыбокай спячцы. Застаюцца актыўнымі гарнастай, выдры, андатры, бабры, мышы - хто палюе, хто ўжывае назапашаны корм.

Сабраўшыся ў гайні, няспынна рухаюцца галодныя ваўкі. Пакідаюць мудрагелістыя сляды на снезе зайцы, лісы, дзікі. У лясах зімуюць сініцы, каралькі, папаўзні, пішчухі, дзятлы. З тундры да нас прылятаюць госці - зімовыя вандроўнікі: белыя совы, пуначкі, касматаногія канюкі.

У пошуках корму да чалавечага жылля наближаюцца амялушкі, гілі, чачоткі, шчыглы, чыжы, аўсянкі. У канцы студзеня пачынаюць віць гнёзды крыжадзюбы - адзіныя з птушак, што гняздуюцца зімой, не баючыся выводзіць птушанят у моцныя маразы.

Пад лёдам рэк і азёр таксама працягваецца жыццё: не спяць плотка, лешч, акунь, аджгір, а мянтуз рыхтуецца ў гэты час да нерасту.

Пад снегам застаюцца зялёнымі кусцікі брусклічніку, гірлянды дзеразы, журавіны, падалешнік і іншыя расліны.

*М.Пучыла*

# Рысь

*Рысь – вераломная лясная кошка, рэдка сустракаецца ў нашых лясах. Любіць жыць у глухім гушчары, багатым на завалы, абавязкова паблізу ад вадаёма.*

Гэты вельмі асцярожная і хітрая драпежніца, разам з тым смелая і рашучая. Слых, зрок і нюх у рысі проста выдатныя. Даўжыня тулава рысі 82-109 см. Галава – у аправе з "бакенбардаў", на кончыках вушэй даўгія чорныя кутасікі, лапы моцныя, шырокія. Хвост кароткі (18-20 см), як бы абрублены, поўсць мяккая, пушыстая. Афарбоўка ад палева-дымчатай да іржавай, часта з цёмнымі плямамі.

Асноўная яе ежа – цеплакроўныя жывёлы, пераважна зайцы і буйныя птушкі. Часам яе здабычай могуць стаць касулі, козы, маладыя ласі і алені. Нават добра пад'еўшы, драпежніца можа напасці на сустрэтую на шляху ахвяру. Недаедзеную здабычу яна хавае дзе-небудзь пад бураломам і сама ўладкоўваецца паблізу сцерагчы свой запас. Пры недахопе ежы можа карміцца падлаю. Крайне рэдка рысь нападае на чалавека, звычайна яна пазбягае сустрэчы з ім.

На снезе рысь пакідае акруглыя, даволі вялікія (9-12 см у папярэчніку) сляды. Яны расстаўляюцца ў выглядзе ломанай лініі, у адрозненне ад воўчых і лісіных, якія кладуцца ў выглядзе ланцужка. Даўжыня кроку – 40 см. Як і ваўкі, рысі ходзяць, ступаючы след у след, не столькі з-за асцярожнасці, колькі дзеля таго, каб зберагчы сілы пры хадзе па глыбокім снезе. Кіпцюры пры гэтым, як і ў іншых кошак, схаваныя.

Рысь жыве і палюе ў адзіноцтве, каб адшукаць ежу, яна праходзіць вялікія адлегласці. Сталае логава яна будуе толькі ў час, калі выводзіць патомства, якое складаецца звычайна з 2-5 кацянятаў, якія з'яўляюцца на свет у красавіку - чэрвені. Месціца логава ў нізкам дупле, бураломе, пад вывернутымі дрэвамі альбо ў пячоры.

Вось як апісвае ўражанні ад відовішча ахвяры рысінага палявання адзін следапыт: "Недалёка ад нашага лагера я знайшоў мёртвую казу з разарванымі шыйнымі пазванкамі і павыяданымі вантробамі. Гэта была "праца" рысі. Па слядах я разабраўся ў тым, што адбылося: рысь сядзела на ствале крывой бярэзіны і адтуль скокнула на сваю ахвяру, пасля чаго каза яшчэ з дзесятак метраў працягнула яе на сабе. Мабыць, цягнула датуль, пакуль драпежніца не пракусіла ёй шыйныя пазванкі."

У Горным Алтаі, дзе мне давялося працаваць, рысь – даволі звычайны жыхар тайгі. Адзін са старых гарнякоў нашай геалагічнай партыі стала паляваў на рысяў, а ягоная жонка франціла ў паліто з рысіным каўнерам. Гэты чалавек і паведаміў нам, што ў суседнім з базай партыі гушчары бадзяецца драпежніца. Нашы 5-6 гадовыя дзеткі, якія хадзілі на працу разам з бацькамі, увесь час імкнуліся збегчы за рачулку, у "рысіны лес" – вельмі карцела ім паглядзець на лясную "кіску".

Супакоіліся хлопцы толькі тады, калі на аднаго з бацькоў, нашага калегу, драпежніца напала зусім паблізу ад базы. Доўга качаліся яны, змагаючыся. Дзякуючы фізічнай сіле і, мабыць, лёсу, калегу ўдалося адбіцца ад рысі. Магчыма, дапамагло тое, што змаганне адбывалася на ўскрайку лесу, ля пасёлка, і драпежніцу нешта спудзіла. Калега абышоўся глыбокімі драпінамі і парванай вопраткай. Незаўжды такія выпадкі добра сканчваюцца.

На Барысаўшчыне рысь можна сустрэць на тэрыторыі Бярэзінскага запаведніка, дзе яна трымаецца месцаў, багатых на зайца.


*Рысь і яе след на мокрым веснавым снезе*

Паводзіць сябе драпежніца асцярожна і сустрэч з людзьмі ўнікае. Разам з яшчэ двума млекакормячымі драпежнікамі, бурым мядзведзем і барсуком, унесена ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь.

*Е.Граковіч*

# Маска

На Барысаўшчыне нямала маленькіх рэчак, якія пачынаюцца і сканчваюцца ў межах раёна. Адной з іх з'яўляецца Маска. Свой пачатак яна мае на поўдні Барысаўшчыны каля вёскі Рыбачнае. Даўжыня рэчкі 14 км., плошча водазабору 89 км². Працякае яна праз Забашаўку і недалёка ад яе ўпадае ў Рову.

Малыя тутэйшыя рэкі заўсёды вылучаюцца сваёй маляўнічасцю. Аднак... Рэчышча Маскі цалкам пераўтворана ў канал. Ад іншых каналаў ён адрозніваецца хіба што тым, што мае назву, якая дасталася ў спадчыну ад былой рэчкі.

*А.Гурскі*

# Студзень

Студзень лічыцца самым халодным месяцам на тэрыторыі Беларусі. Назва паходзіць ад слова "сцюжа". Ад імя старажытнарымскага бога Януса паходзіць сучасная руская назва январь. На сярэдзіне месяца вышыня Сонца над гарызонтам апоўдні 14,8°. Сярэдняя тэмпература паветра -4 – -5,5°С (паўднёвы захад) і -8 – -8,4 (паўночны ўсход). Моцныя студзеньскія пахаладанні пры малым снегавым покрыве выклікаюць вымярзанні азімых, шматгадовых траў, дрэваў і хмызнякоў. Але паўтаральнасць вялікіх маразоў невялікая. Тэмпература ніжэй за -35°С бывае раз у 20-25 гадоў (поўнач) і раз у 50-35 гадоў на поўдні. Глыбокае пранікненне да нас паветра з сырой Атлантыкі прыносіць адлігі працягласцю 8-15 дзён, у асобныя гады да 20 і болей. У мнагаснежны студзень можа выпасці покрыва таўшчынёй звыш метра (Магілёў, 1915 г.). У маласнежны – 4-9 і нават 1 мм. (1950, 1989гг.). Адносная вільготнасць паветра 86-89%, колькасць вільготных дзён дасягае 19-25. Да канца месяца глеба пры сапраўднай зіме прамярзае на глыбіню 50-50, бывае і да 60 см. На глыбокіх азёрах, на паўднёвых і заходніх рэках інтэнсіўна нарастае лёд, у сярэднім да 0,4 см за суткі, Пры моцных адлігах бываюць крыгаломы. Зрэдку ў студзені могуць назірацца навальніцы (1958, 1959, 1975гг.).

Даўнія прыкметы надвор'я:

**Птушкі цвыркаюць – будзе цёпла.**

**Кот ляжыць сярод хаты – будзе цёпла; спіць на печы – да марозу.**

*М.Пучыла*

# Што маем – не захоўваем...

**Вада.** Кожны пяты жыхар Зямлі мусіць піць забруджаную ваду, што ёсць галоўнай прычынай смерці і захворвання. З-за гэтага і брудных сцёкавых крыніц штодзень паміраe 25 тысячаў чалавек. Недахоп чыстай пітной вады забірае жыццё 15 мільёнаў дзяцей штогод. Праз 25 гадоў блізу двюх трацінаў усіх людзей будуць пакутаваць ад недахопу чыстай пітной вады.

**Глеба.** Запусценне ворыўных земляў стала прычынаю апустыньвання 20 адсоткаў глебы (пераважна ў засушлівых рэгіёнах). У сярэднім страта ўраджайнасці глебы сёння датычыць 40 адсоткаў агульнай паверхні зямлі. Прычыны – пераўгноенасць, засаленне, выкарчоўка дрэў і празмерны выпас.

**Лясы, відавая разнастайнасць.** Каля 80 адсоткаў першабытных лясоў Зямлі ўжо зніклі альбо знаходзяцца пад пагрозай. Усяго захавалася яшчэ 35 млн. кв. кіламетраў лясоў. Палова з іх – у трапічнай зоне, палова – у трапічных шыротах. Каля 39 адсоткаў з іх знаходзяцца пад пагрозай з-за высечкі альбо правядзення горназдабыўных работ. У Еўропе і Паўночнай Амерыцы плошча лясоў пачала пакрысе расці, але галоўным чынам за кошт беднай на віды монакультуры.

*М.Пучыла*

# Экалагічны турызм: быць або не?

Апошнім часам у свеце шырокае распаўсюджанне атрымлівае экалагічны турызм. Шмат людзей гатовы плаціць немалыя грошы, каб убачыць прыроду ў яе першабытнай прыгажосці. Асобныя краіны пераўтварылі экалагічны турызм у адну з найбольш стабільных і істотных крыніц сваіх даходаў. Пры гэтым, акрамя непасрэдных прыбыткаў, ствараецца вялікая колькасць працоўных месц без будаўніцтва шкодных вытворчасцей. Здаровае навакольнае асяроддзе ў дадатак спрыяе здароўю насельніцтва.

Барысаўшчына мае ўсё неабходнае для развіцця экалагічнага турызму. Тут захаваліся велізарныя лясы, непаўторныя сваёй прыгажосцю малыя рэкі, азёры і балоты са сваімі багатымі светамі раслін і жывёлін. Мала дзе ў нашай кліматычнай зоне ў Еўропе маюцца такія некранутыя мясціны. І ўсё гэта знаходзіцца параўнальна недалёка ад транспартнага цэнтра – Барысава. Не апошнюю ролю мае і тое, што ў нашым краі маецца дастаткова развітая сетка дарог.

На сённяшні час адзінае, што ў нас мае хоць нейкае дачыненне да экалагічнага турызму, – гэта экскурсіі ў Бярэзінскі запаведнік. Аднак такія вандроўкі дазваляюць рабіць ненатуральнае, штучнае знаёмства з тутэйшай прыродай. Можна было б арганізаваць як пешыя вандроўкі па экалагічных сцежках (на аматарскім узроўні такое на Барысаўшчыне робіцца), так і водныя. Дарэчы, экалагічныя туры па Бярэзіне і малых рэках у спалучэнні з пешымі маршрутамі па некранутых мясцінах з адпачынкамі і начоўкамі ў кемпінгах у "дзікіх" мясцінах (пры ўмове мінімальнага ўздзеяння на навакольнае асяроддзе) маглі б карыстацца вялікім попытам. Выдаткі на ўтварэнне неабходнай для таго інфраструктуры за кароткі тэрмін апраўдалі б сябе і пачалі б прыносіць прыбыткі.

Аднак секчы лес і пераўтвараць рэкі ў каналы прасцей, чым ахоўваць наваколле і развіваць экалагічны турызм. І мы, як п'яніцы, якія задарма прапіваюць сваю маёмасць, з-за параўнальна невялікай выгады знішчаем адну са сваіх найвялікшых каштоўнасцей – багаты тутэйшы навакольны прыродны свет.

*В.Стэфановіч*

# Геалагічная гісторыя Барысаўшчыны

(Працяг, пачатак у № 32, 33 за 2001 г.)

Пасля палеазойскай эры на Зямлі запанаваў мезазой (эра сярэдняга жыцця). Хаця мезазойская эра не пакінула ў нетрах Барысаўшчыны сваіх адкладаў, яе разнастайнае жыццё працякала на нашай зямлі на працягу 163 млн. гадоў.

Адсутнасць асадкавых парод можна растлумачыць тым, што ў гэты перыяд тэрыторыя Барысаўшчыны з'яўлялася сушай і на ёй не ішоў працэс накаплення адкладаў.

Але трэба агаварыцца, што згодна з вынікамі даследаванняў геолагаў на тэрыторыю Беларусі ў канцы палеазоя – пачатку мезазоя час ад часу наступала мора, і таму можна дапусціць , што марскія хвалі ў гэты час плёскаліся і на нашай зямлі, але агульнае ўзнятце паверхні Беларусі бліжэй да сярэдзіны мезазоя прывяло да таго, што ўсё назапашанае за гэты перыяд было размыта і знесена ў аддаленыя марскія басейны.

Менавіта на сушы адбываюцца ў мезазойскую эру найбольш цікавыя падзеі: дасягаюць росквіту і вымiраюць гіганцкія дыназаўры, з'яўляюцца першыя млекакормячыя і птушкі, шырока распаўсюджваюцца голанасенныя расліны і зараджаюцца першыя пакрытанасенныя.

У маштабах усёй Зямлі мезазойская эра характарызуецца велічнымі геалагічнымі падзеямі, якія рэзка змянілі аблічча планеты. Існаваўшыя да гэтага часу суперкантыненты Лаўразія (у паўночнай частцы Зямлі) і Гандвана (у паўднёвай) распаліся, а замест іх утварыліся мацерыкі і акіяны з абрысамі, блізкімі да сучасных. З гэтага часу пачынаецца фарміраванне сучаснага рэльефу.

Клімат планеты тады быў больш цёплы і вільготны на ўсіх шыротах, рэшткі дыназаўраў знойдзены нават у Антарктыдзе. Напрыканцы мезазоя выяўляецца тэндэнцыя да пахаладання і змяншэння колькасці ападкаў.

Што магло адбывацца на зямлі Барысаўшчыны ў гэты час?

Па-першае, у раслінным свеце назіраюцца істотныя перамены. Жыхары мелкіх лагун і балот: гіганцкія папаратнікі, хвашчы і дзеразовыя – часткова вымiраюць ці змяншаюцца ў памерах. Хвашчы, якія дасягалі 15 м у вышыню, ператвараюцца ў дробную траўку, якая дажыла да нашых дзён.

Пачынаюць панаваць голасемянныя дрэвы. У сярэдзіне мезазоя ўжо прымае сучасны выгляд наша ўлюбёнае дрэва – хвая, развіваюцца іншыя хваёвыя. У канцы мезазоя расцвітаюць першыя кветкі, у тым ліку і прымітыўныя магноліі.

З жывёл у гэты час на сушы жывуць жабы, чарапахі, яшчаркі, шматлікія насякомыя. Конікі, тараканы, цвыркуны, жукі, павукі, стракозы, некаторыя мухі ўжо маюць сучасны выгляд. Падобны на сучасных некаторыя яшчаркі і жабы. Чарапахі той далёкай пары нагадваюць сённяшніх, але маюць зграбны хвосцік.

У паветры лётаюць крылатыя яшчары: зубатыя і хвастатыя рамфарынхі і бяззубыя гіганцкія птэрадактылі.

Самымі цікавымі і тыповымі жывёламі мезазоя былі дыназаўры. Яны жылі як на сушы, так і ў вадзе. Сярод наземных дыназаўраў сустракаюцца сапраўдныя гіганты: васьмiметровыя драпежнікі мегалазаўры, трыццацiметровыя траваедныя заўраподы, сцегазаўры з прыгожымі грэбнямі ўздоўж спіны.

Распаўсюджаны птушканогія дыназаўры. Самы вядомы з іх – ігуанадон.

Дыназаўры адкладалі яйкі ў шчыльнай вапнавай шкарлупіне, падобныя на сучасныя птушыныя. Прычым памеры яечак нават самых буйных дыназаўраў не перавышалі 30 см. Дыназаўрыкі вылупляліся зусім маленькія і потым раслі ўсё жыццё. Паяўлялася на свет іх адразу вялікае мноства. Вядома, што бацькі-дыназаўры не пакідалі маленькіх дзетак на волю лёсу, а ахоўвалі месца, дзе было гняздо.



У канцы мезазоя дыназаўры раптам вымiраюць. Прычыны іх рэзкага знікнення дакладна невядомы і з'яўляюцца прадметам спрэчак вучоных. Называюцца такія фактары, як змяненне клімату, павелічэнне радыяцыі ў сувязі з касмічнымі прычынамі, прыцягненне ў кругаварот новых хімічных элементаў, змяненне сілы цяжару.

Як бы там ні было, але гэтыя дзіўныя жывёлы зніклі, а на змену ім прыйшлі цеплакроўныя млекакормячыя істоты, якія жывуць побач з намі і па сённяшні дзень.

*(Працяг будзе)*
*Т.Шміт*





*Крылаты яшчар рамфарынх (зверху над тэкстам)*
*Адбітак маладой мезазойскай чарапашкі (зверху).*
*Дыпладок – самы буйны з заўраподаў - харчаваўся выключна раслінамі, пры тым меў даўжыню да 30 м і вагу да 50 тон (справа).*
*Шкілет птушканогага дыназаўра – ігуанадона (знізу)*



*Акамянелыя яйкі дыназаўра (злева)*
*Шышкі старажытнай хвоі мала адрозніваюцца ад сучасных (знізу)*





# Экалогія нашага лёсу

*Чарнобыль нас нічому не навучыў. Катастрафічныя засухі і паводкі таксама. Мы так і не зразумелі, што перш, чым атрымаць эканамічныя выгоды, патрэбна забяспечыць экалагічную бяспеку.*

Па прагнозах эколагаў да 2100 года канцэнтрацыя вуглякіслага газу ў паветры планеты ўзрасце ў тры разы, што рэзка павялічыць "парніковы эфект", а значыць, і пагрозу новых катаклізмаў.

Але будзем гаварыць аб праблемах сваіх, беларускіх, хоць даўно ўжо вядома, што якраз экалагічныя праблемы ўзаемазвязаны. А таму нядаўна нашым урадам прыняты план дзеянняў па гігіене акаляючага асяроддзя. План адобраны таксама Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя. Працягнем аб праблемах.

Сёння ў спіс экалагічна небяспечных прадпрыемстваў рэспублікі трапілі 32 вытворчыя адзінкі. Асабліва непакоіць Салігорскі прамысловы раён, паветра і вада забруджваюцца інтэнсіўна ў Магілёве, Мазыры, Гродні. Не адпавядаюць яны стандартам у Менску, Оршы, Гомелі.

Існуе праблема пітной вады, прычым не толькі ў горадзе, але і на сяле. Па дадзеных спецыялістаў 80% шахтных калодзежаў маюць ваду, якая не адпавядае стандартам. Таму па ініцыятыве Міністэрства жыллёвай гаспадаркі прынята праграма "Чыстая вада". Навуковыя дадзеныя гавораць, што калі становішча не зменіцца да 2030 года, забруджванне вод можа падысці да небяспечнай рысы: мы пачнем "піць хваробы".

А цяпер колькі слоў пра нашы землі. Тут мы "багачы": у краіне 20 мільёнаў гектараў зямлі, з іх 12 мільёнаў выкарыстоўваюцца ў сельскай гаспадарцы, трэць – пад лясамі, астатняе – "размыта".

Але і тут шмат праблем. Выведзены з абароту "чарнобыльскія землі". Існуюць вялікія праблемы з эксплуатацыяй тарфянікаў і меліяраваных земляў. Калі ў лепшыя часы Беларусь збірала 7,5 мільёнаў тон зерня ці па 850 кілаграмаў на чалавека, то цяпер – 350 кг. на душу. Думаецца, што гэта – найперш, вынік кліматычных змен.

А цяпер прывядзем канкрэтныя вынікі праверкі стану акаляючага асяроддзя Барысаўшчыны. Па тэрыторыі раёна працякае 60 рэк і ручаёў. У тым ліку Бярэзіна, Бобр, Пліса, Гайна, Цна. Працягласць рачной сеткі складае 687,7 кіламетра, плошча водаахоўных зон 54,1 тыс. гектараў, што складае 18,4% агульнай плошчы раёна. У свой час распрацоўваліся мерапрыемствы па ахове малых рэк. І што ж?

У межах водаахоўных зон было выяўлена 198 аб'ектаў – забруджвальнікаў, у тым ліку 84 фермы, 2 накапляльнікі сцёкаў, 20 складоў мінеральных угнаенняў і ядахімікатаў, 13 складоў нафтапрадуктаў, мехмайстэрняў, 68 іншых аб'ектаў.

З усяго таго, што планавалася, залужана толькі 115 гектараў земляў, пасаджаны лес на 4 гектарах. Будаўніцтва гноезахавальнікаў выканана на 34%. Вынесена толькі палова складаў. Не выкананы мерапрыемствы ў прыбярэжных палосах малых рэк.

У калгасе "1 мая" сцёкі з фермы пападаюць у Плісу. У Барысаўскай бальніцы адстойнікі перапоўнены, і сцёкі выцякаюць да Бярэзіны. І такіх прыкладаў шмат.

І ўсё ж такі, у многім становішча можна паправіць. Вядома, што "зялёныя" арганізмы аказваюць уплыў на забруджванне. Асобныя дрэвы, якія завезены з іншых геаграфічных раёнаў, здольныя забіраць у 50-100 разоў больш шкодных выкідаў, чым мясцовыя віды. Гэта адкрыццё дазволіла высадзіць па спецыяльнай схеме зялёныя масівы ў Полацку і іншых гарадах. Там становішча мяняецца.

У Барысаве апошнім часам высечана шмат дрэў. А таму карысна было б пакарыстацца станоўчым вопытам. Не проста насадзіць нейкія дрэвы, а аптымальна здольныя аздаравіць асяроддзе.

Такім чынам, наш лёс у нашых руках.

*М.Пучыла*

# У памяці Барысаў паўстае такім...

*Наша рэчаіснасць змяняецца вельмі хутка. За жыццё аднаго пакалення Барысаў, як і любое іншае месца, можа змяніцца так моцна, што практычна пераўтворыцца ў іншы горад. І толькі ў памяці старажылаў ён застанецца такім, як і ў часы іх маладосці.*

*Тутэйшыя старажылы могуць распавесці шмат цікавага з жыцця і быту нашага горада. Сёння вашай увазе прапануюцца ўспаміны аднаго з іх - Георгія Рыгоравіча Герасімёнка.*

У сярэдзіне 30-х гадоў Барысаў яшчэ меў усе рысы тыповага павятовага горада Расійскай імперыі.

Цэнтрам горада лічыліся вуліцы ўздоўж гандлёвых радоў, царквы і сквера, які зараз не існуе. На рагу вуліц Лепельскай і Менскай на будынку насупраць пошты visеў гадзіннік. Гэта месца ў гараджан звалася "под часами". Тратуары цэнтральных вуліц былі акуратна вымашчаны роўнай бетоннай пліткай – адны аднатоннай шэрай, іншыя чырвонай і жоўтай у шахматным парадку.

Вокны некаторых цагляных дамоў, якія належылі заможным гараджанам альбо грамадскім арганізацыям, былі загароджаны прыгожымі каванымі кратамі. З таго ж матэрыялу былі зроблены брамы і веснічкі. Самым адметным быў будынак гарадской паліклінікі. Ён быў пабудаваны яшчэ да рэвалюцыі з прыгожай жоўтай цэглы, аздоблены каваным жалезам і фігурна выразанай белай бляхай.Такой жа прыгожай была і агароджа паліклінікі з боку вуліцы Лепельскай. Паліклініка мела добра абсталяваны гаспадарчы двор з жытлом для вартаўніка.

Вуліцы, якія вялі да цэнтра, былі брукаваныя. Акрамя плітачных тратуараў, на некаторых вуліцах былі тратуары з дошак. На ўскраіне вуліцы былі небрукаваныя. Улетку яны былі пыльнымі, вясной і восенню ўтапалі ў гразі. Толькі дзе-нідзе на іх былі дашчатыя тратуары.

З поўначы ў горад уязджалі па вуліцы Полацкай (Лапаціна). Яна ішла да цэнтра і далей пасля турмы выходзіла да Бярэзіны. У далёкія часы тут была пераправа цераз раку, пазней наплыўны мост. Такі стан транспартнай магістралі не спрыяў развіццю горада, і ўжо ў савецкі час тут была ўзведзена земляная дамба і пабудаваны два драўляныя масты – цераз Бярэзіну і адзін з яе рукавоў.

У гэты ж час быў зроблены праезд з вуліцы Полацкай на вуліцу Лепельскую, які парушыў прастакутны парадак гарадскіх кварталаў.

Вуліца Маскоўская (Дзяржынскага) была выездам з горада на старамаскоўскі шлях. Яна заканчвалася на рацэ Сха, дзе была пабудавана млынавая плаціна. Млын стаяў на левым беразе ракі і

(Заканчэнне на стар. 10)

Борисовъ Минская улица.

Вуліца Менская (зараз III Інтэрнацыянала) на пачатку XX стагоддзя. Справа гандлёвыя рады

# Тутэйшыя майстры светлапісу

*Першыя фотаграфічныя ўстановы ў Барысаве з'явіліся напрыканцы XIX стагоддзя. Усе яны былі прыватнымі і належылі барысаўскім і менскім мяшчанам.*

У архіўных дакументах ёсць узгадванні аб фотамайстэрні Арона Абуровіча, якая працавала ў 1880 годзе. Дзесяць год (1889- 1898) працавала фотамайстэрня Грышы Бродкіна. У 1898 годзе ён перадаў справу Л.Антавілю, які ў далейшым стаў вельмі папулярным барысаўскім фатографам. У 1894 годзе жыхар Менска Нісон Нейфах адкрыў фотамайстэрню на вуліцы Лепельскай у доме Ш.Клябанава. Праз год Нісон перадаў фотамайстэрню жонцы Марфе Нейфах. Гэта фотамайстэрня праіснавала да 1899 года. У 1898 годзе таксама жыхар Менска Лейба Берман адкрыў фотамайстэрню па вуліцы Маскоўскай у доме Н.Фердынанда. У лістападзе 1900 года ён падае прашэнне з просьбай адкрыць аддзяленне фатаграфічнай установы ў Нова-Барысаве ў доме памешчыка І.Х.Каладзеева.

Фотамайстэрні асобных уладальнікаў існавалі не працяглы час. Іх уладальнікі цярпелі страты. Адкрыццё і існаванне фотамайстэрні было звязана з цэлым шэрагам "фармальнасцей". Неабходна было падаць прашэнне аб выдачы пасведчання на імя Менскага губернатара з аплатай герба-



*Прадукцыя вытворчасці фотамайстэрні "Дэкаданс" Н.Габая:*

*Партрэты (злева і знізу)*

*Партрэт - візітоўка (справа)*








*Пасведчанне, якое атрымаў Н.Габай па заканчэнні навучання ў фатаграфічнай справе ў 1906 годзе (справа зверху)*

*Паспарту фотакартак мастацкай фатаграфіі "Дэкаданс" (справа)*



*Менавіта дзякуючы фотамайстрам Барысава канца XIX - пачатку XX стагоддзя мы зараз можамназіраць на старых фотакартках, як выглядаў наш горад і яго жыхары сто год таму*


23

СВИДѢТЕЛЬСТВО.

Предъявителю сего фотографу Нисону Элеву Нейфаху разрѣшается содержаніе въ гор. Борисовѣ фотографическаго заведенія

съ тѣмъ, чтобы по истеченіи 365 со дня выдачи настоящаго свидѣтельства, т. е. не позже ... Ноября 1895 года, таковое было представлено обратно для выдачи новаго, если къ тому не встрѣтится законныхъ препятствій. При этомъ вмѣняется въ непремѣнную обязанность Нейфаху въ точности исполнять правила, указанныя въ отдѣленіи II главы II т. XIV Уст. о ценз. и печ., издан. 1890 г., и другія относящіяся къ сему предмету, существующія и впредь могущія послѣдовать, узаконенія или распоряженія Правительства, подъ опасеніемъ, за малѣйшее отступленіе отъ оныхъ, подвергнуться законной отвѣтственности. Въ чемъ подписью моею и приложеніемъ казенной печати удостовѣряю. Свидѣтельство это должно быть выставлено на видномъ мѣстѣ. Причитающійся гербовый сборъ взысканъ. Г. Минскъ. Ноября 25 дня 1894 года.

Минскій Губернаторъ, Генералъ-Лейтенантъ [signature]

Правитель Канцеляріи [signature]

*Дазвол на адкрыццё фатаграфічнай установы ў Барысаве Н.Нэйфаху, які выданы ў 1894 годзе*

вага збору 80 капеек. Паліцмейстар атрымліваў прадпісанне "ў самы непрацяглы тэрмін прадаставіць дакладныя звесткі" аб асобе, якая падала прашэнне. Неабходна было падаць звесткі па 15 пунктах: "Колькі год таму, хто падаў прашэнне?", "Якімі сродкамі валодае?", "Ці будзе сам працаваць, або мае намер наняць працоўных?" і г.д.

Ад барысаўскага павятовага спраўніка патрабавался штотыднёва здзяйсняць нагляд за працай установы. Яго вынікі трэба было запісваць у кнігу, якую мусіў быў мець уладальнік фотамайстэрні. Было неабходна выконваць статут аб цэнзуры і друку, які быў выдадзены ў 1880 годзе і кіравацца зборнікам законаў аб друку, які быў выдадзены ў 1893 годзе. Пасведчанне на дазвол адкрыцця фотамайстэрні абавязкова павінна было знаходзіцца на добра бачным месцы.

На пачатку XX стагоддзя ў Барысаве з'яўляюцца першыя фотаатэлье. Наведванне іх было даступным шмат для якіх мяшчан, а не толькі для найбольш багатых, як гэта было раней.

У 1910 годзе ў Барысаве працавала фотаатэлье "Мадэрн", якім валодалі брат і сястра М.З. і Г.З. Разэнблюмы. Яны атрымалі яго ў спадчыну ад бацькі Зеліка Разэнблюма, які займаўся фатаграфіяй з 1902 года. Фотаатэлье знаходзілася па вуліцы Менскай ва ўласным доме. Разэнблюм працаваў да 1932 года.

Прыкладна ў той самы час адкрыў фотаатэлье "Дэкаданс" Навум Габай. Габай нарадзіўся ў 1883 годзе ў Стара-Быхаве Магілёўскай губерні. Атрымаў хатнюю адукацыю, меў здольнасць да малявання. Фатаграфічнаму майстэрству навучаўся ў "фатаграфісткі" Соры Шляхцер на працягу 2-х год. У пасведчанні, якое ён атрымаў па заканчэнні навучання ў 1906 годзе, адзначана: "Пад час навучання ён сябе вёў добра і заняткі свае выконваў акуратна, мастацтва па частцы фатаграфічных здымкаў, рэтушы і капіроўкі ён, Габай, вывучыў добра".

У 1907 годзе Н.Габай атрымаў дазвол на заняткі фатаграфіяй у Менскай губерні. У 1911 годзе на сродкі бацькі, які меў шмат грошай, адкрыў фотаатэлье ў Барысаве. Як і фатографы Разэнблюмы, працаваў у жанры партрэта – адзінкавага, двайнога, групавога. У залежнасці ад фармату вырабляў кабінетныя партрэты (10х15), будуарныя партрэты (12х15), партрэты – візітоўкі (9х5). Апошнія былі вельмі папулярнымі. Партрэтамі – візітоўкамі абменьваліся падчас святаў, пакідалі пасля наведвання сябры і родзічы. У асобных сем'ях набіраліся цэлыя альбомы "карт дэ візіт". Такі альбом станавіўся абавязковай прыналежнасцю і незамянімым прадметам гутаркі.

Прадаваліся яны ўдвая таней, чым паўнапамерныя фотаздымкі. У 1913 годзе фотаатэлье "Дэкаданс" было выраблена 186 візітовак.

Гарадскую славу Н.Габаю прынеслі фотакарткі высокай якасці друку. Яна дасягалася тым, што ў асобе Н.Габая зліліся якасці мастака і фатографа. Здымкі рабіліся на фоне намаляваных заднікаў, якія ў любы момант былі гатовы пераўтварыцца ў закутак лесу або вяршыню гары. Выкарыстоўваліся таксама крэслы, лесвіцы, балюстрады, такія рэквізіты, як парасоны, кульгі, букеты. Габай умеў не толькі ўдала арганізаваць кампазіцыю, але і па-мастацку аформіць здымак. Фотаздымак па жаданню заказчыка наклейваўся на спецыяльную картонную падклейку – паспарту. На баку выявы, у нізе паспарту, залатой або белай фарбай друкавалася прозвішча фатографа і назва горада. Унізе злева – вензель, пацэнтры – медальёны з профільнай выяваю заснавальнікаў фатаграфіі А.Дагера, Ж. Ньепса, Ф.Табольта. Адваротны бок здымка ўпрыгожвала літаграфія з выяваю жаночай фігуры з люстэркам у руцэ – сірэны – сімвала заклiку, прыцягвання і рэкламны тэкст.

Найбольшага ўздыму фотаздымачная дзейнасць Н.Габая дасягнула перад першай сусветнай вайной і падчас яе. Фотаатэлье "Дэкаданс" існавала да кастрычніка 1917 года. У далейшым Н.Габай працаваў у Барысаўскай гарадской друкарні, гуляў у аматарскіх спектаклях. Далейшы лёс тутэйшага мастака светапісу невядомы, чаго нельга сказаць аб яго асобных творчых працах. Пераканаўчыя фотапартрэты розных па сваўму характару і сацыяльнаму становішчу барысаўцаў захаваліся да сённяшняга часу ў калекцыях Барысаўскага краязнаўчага музея, прыватных асобаў, сямейных альбомах барысаўцаў.

**Т.Кандзідава,**
*супрацоўнік Барысаўскага дзяржаўнага аб'яднанага музея.*




*Візітоўка вытворчасці фотамайстэрні Антавіля*







*Візітоўкі вытворчасці фотамайстэрні Разэнблюма (зверху)*



ХУДОЖЕСТВЕННАЯ
Фотографія
М. З. РОЗЕНБЛЮМА
въ Борисовѣ.
При фотографіи спеціальное отдѣленіе для УВЕЛИЧЕНІЙ ПОРТРЕТОВЪ до желаемаго размѣра.
Негативы сохраняются.




*Фотакарткі і іх паспарту вытворчасці фотамайстэрні Разэнблюма*



# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-16, 18 - 20, 22 - 31 за 1996 - 2001 гг.)*

Напрыканцы 1830 года ў Польшчы пачынаецца паўстанне. Яго мэта – адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. На Беларусі рух за адраджэнне былой дзяржавы праявіўся крыху пазней і меў меншыя памеры. Асноўныя дзеянні адбываліся заходней Барысаўшчыны. Былі вайсковыя дзеянні і на поўдзень ад нашага краю. Барысаўшчына засталася па-за межамі ўзброеных сутычак. Тым не менш, дух незадаволенасці і паўстанцкі дух адчуваўся і тут.

Напрыканцы 1831 года паўстанне было падаўлена. Яго вынікам, у прыватнасці, стала ўзмацненне ціску на шляхту. Усе, хто не змог на падставе дакументальных сведчанняў пацвердзіць сваю шляхецкую прыналежнасць, былі пераведзены ў клас так званых аднадворцаў і былі пазбаўлены шэрагу правоў. Раней на Барысаўшчыне такі клас у грамадстве не існаваў наогул.

У 1833 годзе па Беларусі прайшла хваля закрыцця кляштараў, манахі якіх актыўна ўдзельнічалі ў паўстанні. Менавіта ў гэты час быў зачынены і кляштар дамініканцаў у Зембіне, а яго маёмасць была канфіскавана ў дзяржаўную казну.

У 1839 годзе становішча на Барысаўшчыне, як і на Беларусі наогул, зноў абвастраецца. У гэтым годзе было скасавана уніяцтва. Яго ж прыхільнікі прымусова пераводзіліся ў праваслаўе, што і выклікала абурэнне сярод вернікаў. На той момант уніяцтва ў Барысаўскім павеце па-за межамі горада было самай распаўсюджанай хрысціянскай плыняю, а яго прыхільнікі складалі каля 2/3 ад усіх тутэйшых хрысціян.

Для аператыўнага падаўлення хваляванняў вернікаў да 29 сакавіка 1839 года ў Барысаве былі дадаткова размешчаны 50 казакаў. Яны зрабілі сваю справу, і да жніўня – верасня таго ж года неабходнасць у іх прысутнасці ўжо адпала.

19 лютага 1861 года Аляксандр II падпісвае Маніфест і "Палажэнні" аб адмене прыгоннага права. Для яго правядзення на ўзроўні паветаў утвараліся міравыя ўчасткі, пасады міравых пасярэднікаў і міравыя павятовыя з'езды. У Барысаўскім павеце было шэсць міравых участкаў. Міравыя пасярэднікі складалі статутныя граматы паміж памешчыкамі і сялянамі, разглядалі скаргі і спрэчкі паміж імі і інш. Дзейнічалі міравыя пасярэднікі да 1874 года. У 1862 годзе пачынаецца вайсковая рэформа. Па ёй замест рэкруцкіх набораў абвяшчалася ўсеагульная вайсковая павіннасць, значна скарачаліся тэрміны службы.

У 1862 годзе паўсюдна на Беларусі і на Барысаўшчыне ў прыватнасці адчуваюцца ў грамадстве настроі на змаганне за адраджэнне спрадвечнай сваёй дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага. Яе аднаўленне бачылася супольным з аднаўленнем Польшчы. Амаль уся тутэйшая шляхта – асноўныя носьбіты ідэі паўстання - былі католікамі. Таму актывізацыя грамадства выклікала ўздым і актывізацыю каталіцтва на нашых землях. Менавіта ў гэты час у 1862 годзе ў Барысаве ўзводзіцца чатыры новыя драўляныя каталіцкія капліцы. Нічога падобнага ніколі не было за гісторыю горада.

Набліжэнне паўстання было відавочным для ўсіх. Таму расійскае кіраўніцтва ўводзіць у Беларусь дадатковыя войскі. Адным з месцаў, дзе яны канцэнтраваліся, быў Барысаў. У 1862 годзе сюды дадаткова было пераведзена каля 2000 вайскоўцаў. Тут у прыватнасці размяшчаецца рэзервовы Крэменчугскі полк. Да таго тут ужо было каля 1000 жаўнераў. Агульная колькасць вайскоўцаў у нашым горадзе дасягнула 3163 чалавек. Дарэчы, тагачаснае насельніцтва Барысава складала 5242 чалавекі. Такім чынам, вайскоўцы, што на гэты момант былі размешчаны ў горадзе, складалі амаль 40% ад яго агульнага насельніцтва.



*Будынак касцёла былога кляштара дамініканцаў у Зембіне, які быў зачынены за актыўны ўдзел манахаў у паўстанні 1831 года*

Паўстанне пачалося на пачатку 1862 года. 10 (22 па новаму стылю) студзеня Часовы ўрад у Варшаве прымае адпаведны Маніфест. 20 студзеня (1 лютага) Маніфест у падтрымку паўстання ў Варшаве прымае Часовы ўрад Літвы і Беларусі, на чале якога стаяў Кастусь Каліноўскі.

На пачатку лютага 1863 года на Барысаўшчыне адзначаецца значнае пашырэнне паўстанцкага руху. У гэты час актыўна распаўсюджваюцца заклікі і іншая паўстанцкая літаратура, вядзецца агітацыя сярод усіх слаёў грамадства. Яшчэ раней – у студзені 1863 года - па ўсёй тэрыторыі Менскай губерні ўтвараюцца кіраўнічыя структуры паўстанцкага народнага ўрада. Начальнікам Барысаўскага павета быў прызначаны доктар Ян Свіда.

Дзеля падаўлення паўстанцкага духу ў сярэдзіне лютага былі праведзены масавыя арышты тутэйшай шляхты з перадачай іх у адмысловую палітычную камісію, якая размяшчалася ў Менску. Ёй кіраваў палкоўнік Рэйхарт. Пад следства траплялі як тыя, каму было 20-30 год, так і тыя, каму ўжо даўно было за 60.

Менавіта пры правядзенні гэтай хвалі арыштаў 18 лютага быў затрыманы за агітацыйную дзейнасць і заклікі да паўстання Міхаіл Цюндзявіцкі. Ён нарадзіўся на Барысаўшчыне ў 1839 годзе ў фамільным маёнтку ў Вільянове. У 1863 годзе праходзіў службу ў чыне прапаршчыка ў артылерыйскай брыгадзе ў Пецярбурзе. На пачатку паўстання знаходзіўся дома ў адпачынку. За сваю дзейнасць Цюндзявіцкі быў прыцягнуты да ваенна – палявога суда. Ён апынуўся ў становішчы першага паўстанца ў Менскай губерні, хто быў пакараны смяротнай карай. Адбылося гэта 21 траўня 1863 года.

У сярэдзіне лютага на Барысаўшчыне за заклікі да паўстання, распаўсюджванне паўстанцкай літаратуры і іншыя падобная дзеянні трапляюць таксама пад следства Ігнацій Валіцкі (53 гады; у далейшым атрымаў смяротную кару), Сцяпан Мікульскі (31 год; у далейшым сасланы на жыхарства ў Аланецкую губерню), Цэзар Рагоўскі (40 год; у далейшым атрымаў смяротную кару), Адам Манюшка (66 год; у далейшым пастаўлены пад паліцэйскі нагляд), Іван Лемяшкоўскі (43 год; далейшы лёс невядомы) і шмат іншых шляхцічаў. Нярэдка пад следства траплялі і выпадковыя людзі, як гэта было з пісарам Зембінскага валаснога праўлення Апалінарыем Сецкім.

Працягваліся арышты і адкрыццё спраў на найбольш актыўных прыхільнікаў паўстання і ў далейшыя часы. Шмат хто з іх прайшоў праз барысаўскую турму. А чацвёра з іх непасрэдна ў ёй былі пазбаўлены жыцця.

У красавіку 1863 года найбольш актыўныя змагары за незалежнасць пачынаюць сыходзіць у лясы, дзе фарміруюцца атрады паўстанцаў. Іх на Барысаўшчыне ўтвараецца вялікая колькасць і для змагання з імі становіцца недастаткова нават тых дадатковых войскаў, што былі размешчаны напярэдадні ў Барысаве.

*(Працяг будзе)*

**М.Мацельскі**

# У памяці Барысаў паўстае такім...

*(Працяг, пачатак на стар. 7)*

спраўна працаваў. Праз дарогу ў млынавай сажалцы засолачны пункт замочваў бочкі, у якіх нарыхтоўвалі гуркі і капусту. Рака Сха была паўнаводнай, і па ёй сплаўлялі лес. Перабрысці яе можна было толькі дзенідзе за межамі горада.

На вуліцы Маскоўскай знаходзіўся гарадскі парк, агароджаны і дагледжаны. У сярэдзіне яго месцілася пляцоўка, дзе вечарамі іграў аркестр і ладзіліся танцы. За ўваход у парк трэба было плаціць, але па вечарах парк заўсёды быў запоўнены народам. У цёплы час года сюды прыводзілі гуляць дзяцей з двух дзіцячых садкоў, якія былі размешчаны на Маскоўскай. Будынкі гэтых садкоў не захаваліся. На другім канцы вуліцы знаходзілася другая рускамоўная школа, якую аўтар гэтых радкоў наведваў з 1939 года.

**Г.Герасімёнак**



*Рэшткі былых будынкаў маёнтка ў Скупліне ў калядную ноч*

*Большасць з найбольш старых і цікавых будынкаў і архітэктурных комплексаў на Барысаўшчыне знаходзяцца ў паўразбураным стане. Тое, што па сённяшні час не разбурана, вынішчае час пры маўклівай згодзе тутэйшых жыхароў.*

*У былыя часы ў нашым краі было вельмі шмат будынкаў з часаных каменняў. Ад іх да нашага часу захаваліся толькі адзінкі. Да і тыя, відаць, нікому не патрэбны...*

# Партызанскімі сцежкамі

*Гэты здымак быў зроблены мной летам 1985 года пасля святочнай паездкі па партызанскіх мясцінах (в. Глыбочыца Барысаўскага раёна), на якім мой дзядзька – Пётр Антонавіч Шустоўскі (1920 – 1993) распавядае пра ваенная ліхалецце, якое зведаў ён ды яго таварышы па зброі, калі Беларусь (як зрэшты, і ўся Еўропа) стагнала пад каваным ботам супернацыскай "цывілізацыі".*



З'яўляючыся шараговым партызанам (уваходзіў у дыверсіённую групу выведкі) атрада імя Кірава (створаны ў жніўні 1942 года, а са снежня таго ж года рэарганізаваны ў брыгаду імя Кірава, якая дзейнічала на часова акупаванай тэрыторыі Халопеніцкага, Крупскага і Барысаўскага раёнаў), мой дзядзька за подзвігі быў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны I ступені, медалямі "За баявыя заслугі" і інш.

Вось што адзначана ў кнізе ўдзельніка тых падзеяў Васіля Шаркова "Ля берагоў Паліка" (Менск, 1985 год). "...узвод пад камандаваннем Мікалая Бур'яка перарваў варожую сувязь Берлін – Смаленск. Партызаны І.Бараноўскі і В.Марцынкевіч паказалі яму глыбінёй да метра і выявілі кабель. Хутка пачалі рубіць яго сякерамі. Але гітлераўцы заўважылі і адкрылі агонь з кулямётаў і аўтаматаў. І Бараноўскі і В.Марцынкевіч працягвалі сваю справу, а В.Севярын і П.Шустоўскі прымусілі праціўніка змоўкнуць. Кавалак кабеля даставілі ў штаб брыгады."

Падчас гэтай рашуча – дзёрзкай і вынікова́й баявой аперацыі (1943 год, "рэйкавая вайна") мой дзядзька быў паранены ў руку. Першы раз фашысцкая куля зачапіла яму нагу яшчэ на пачатку злавесных "зачыстак" карнікаў. Тады ў кароткай узброенай сутычцы на ўскрайку адной з вёсак партызанскай зоны... не хапала патронаў, гранат, каб прымусіць акупантаў рэціравацца.

Дзеля пераканальнасці прывяду адзін гістарычны дакумент – камсамольскую характарыстыку, датаваную ліпенем 1944 года, за подпісам сакратароў В.Маторы і Б.Пятроўскага. Цытую: "Шустоўскі Пётр Антонавіч прыбыў у атрад імя Кірава па мабілізацыі як узорны дысцыплінаваны баец. Быў прыняты арганізацыяй атрада 20 траўня 1942 года ў сябры ВЛКСМ. Знаходзіўся на ўліку пры Халопеніцкім падпольным РК ЛКСМБ.

На працягу часу знаходжання ў атрадзе паказаў сябе смелым разведчыкам. Неаднаразова ўдзельнічаў у баях з нямецкімі акупантамі, быў паранены ў баі..."

Вечная слава ўсім змагарам за свабоду і незалежнасць Бацькаўшчыны!

**А.Шустоўскі**

# Спрадвечныя святы і абрады жыхароў Ухалоды

*Мы працягваем друкаваць успаміны краязнаўцы з Ухалоды І.Клімковіча. Нататкі, якія прапануюцца вам сёння, датычацца тых святаў, якія спрадвеку адзначаліся жыхарамі вёскі Ухалода*

***"Двунадзесятыя"*** святы па царкоўнаму календару святкаваліся абавязкова. Працаваць у гэтыя дні было грахом. Такіх святаў было ў годзе дванаццаць. У календары яны адзначаліся чорным кольцам. Іншыя выбітныя даты памячаліся паўкольцам, белым кольцам і царскай каронай.Такіх календароў-кніжачак (цана 5 кап.) было ў вёсцы 2-3, у грамацеяў.

Найбольш доўгачаканымі святамі (асабліва для нас, дзяцей) былі *Вялікдзень, Сёмуха, Каляды і кірмаш на Пятра і Паўла.*

Вабіла нас, дзяцей, (у некаторай ступені і дарослых) і падрыхтоўка да свята: уборка ў хаце, змена саломы на пасцелях, чыстыя рэчы, купленыя абновы. Новая фуражка з бліскучым брылём – не кожнаму такую абнову ўдавалася атрымаць да свята! І яшчэ адна асалода – у свята на стале было багата смачных страў!

Святочны настрой доўга трымаўся ў сям'і і на вуліцы!

***Вялікдзень*** – вясеннае свята.

Да гэта свята ў цыбульных лушпінках варылі яйкі. Чырвоныя святочныя яйкі – мара дзяцей. У гэты дзень мы з нецярплівасцю чакалі разгавення. Раніцай з Неманіцкай царквы пасля ўсяночнай прывозілі "свянцоныя" пірагі, яйкі, масла.

Хроснікі ў гэты дзень хадзілі віншаваць сваіх хросных і атрымлівалі ў падарунак па чырвонаму яечку.

Потым пачыналіся гульні: качанне яек з латка, біццё. Гэтым займаліся і дзеці, і дарослыя.

На другі ці трэці дзень свята арганізоўвалася група валачобнікаў, якая хадзіла па вёсцы "хрыстаславіць". Імправізаваны хор валачобнікаў, чалавек 10, з галасам і са стажам, пад кіраўніцтвам Давыда Сілавіча Моніча, у суправаджэнні натоўпу малых, хадзіў ад хаты да хаты і, спытаўшы, перш за ўсё, ці дома гаспадар і гаспадыня, пачынаў пець-хрыстаславіць.

Запяваў звычайна дзядзька Давыд (кульгавы стары халасцяк), а хор прыпяваў.

Ля кожнай хаты пелі тры-пяць хвілін. Гаспадары шчодра адбодвалі валачобнікаў: кавалак сала, кольца каўбасы, каб хрысталаславы не палічылі іх за скрахабораў. Дзенідзе запявале падносілі і чарку гарэлкі – прамыць горла. Сабраўшы адну-дзве торбы сала і каўбас, валачобнікі абменьвалі гэта на грошы, а грошы пускалі на гарэлку – адпачывалі.

***Сёмуха*** – свята вясеннае, сонечнае, радаснае. У хаце і ў двары было шмат зялёных галінак бярозы і клёна.

***Пятроў дзень*** – у гэты дзень на Ухалодзе быў кірмаш. Сустракалі гасцей, блізкіх. Кірмаш доўжыўся 2-3 дні. Пачынаўся ён богаслужэннем у лясной царкоўцы на Барках. Народу збіралася туды багата: з Ухалоды і гасцей з навакольных вёсак. Барысаўскія гандляры адчынялі там свае ларкі. Там жа праходзілі і своеасаблівыя агледзіны навест.

Гулянне працягвалася на Ухалодзе. Пілі гарэлку – па сродках. Здараліся бойкі.

***Купала*** памятаецца тым, што распальвалі кастры і скакалі праз іх. Былі толькі дзеці.

***Спас асенні.*** Да Спаса яблыкі есці лічылася грэхам. На Спаса яблыкі "свянцілі" ў царкве, толькі пасля гэтага можна было іх есці.

***Каляды*** (25 снежня) – свята лясных арэхаў, хатніх каўбас, свята прыгожых і страшных казак у каляндных марозныя вечары на цёплай печы.

Напярэдадні на ўсіх касяках пабудоў ставілі мелам крыжы.

На Каляды хадзілі па вёсцы калядаваць (з "буслам", "мядзведзем" і інш.).

***Новы год*** спецыяльна не святкавалі – гэта быў працяг каляднага свята.

***Хрышчэнне*** – 6 студзеня. У гэты дзень "свянцілі" ваду, звычайна на рацэ, куды вернікі ішлі хрэсным ходам. Ухалодцы бралі з палонкі "святую" ваду, прыносілі дадому і бераглі "на ўсялякі выпадак" да наступнага года.

***Мікола зімні*** (6 лютага) – на Ухалодзе невялікі кірмаш.

***Масленіца*** –ластавіца. Вясёлае свята!

Нават у самай беднай сям'і масленіца адзначалася блінамі. Бліны з жытняй мукі (з чыста-белай не пяклі) яшчэ гарачыя з патэльні змазваліся здорам, і атрымлівалася вельмі смачна. Пры наяўнасці сала (шпіку) і хатніх каўбас іх смажылі на патэльні, і ўся сям'я макала блінамі ў тлушч, а потым сала і каўбасы дзялілі – кожны атрымліваў сваю долю.

Днём качаліся на арэлях. Вечарам – гульні, танцы, песні. Позна ўвечары – загавенне на скаромнае на сем тыдняў.

***Дзяды*** адзначалі два разы ў год. Восеньскія адзначаліся звычайна ў суботу. Гэта вечар, прысвечаны дзядам-продкам. У гэты вечар адбывалася напаўжалобная вячэра ўсёй сям'і, якая складалася з сямі страў. Тут была куцця – пярловая каша ў "сыце" – салодкай цукровай ці мядовай (пажадана) вадзе. З кожнай стравы па адной лыжцы адкладалі ў агульную міску для дзядоў.

***Радаўніца*** – памінкі продкаў на могілках. Тут пілі, елі і паміналі дзядоў. Для памерлых адкладалі на капусныя лісты тое-сёе з трапезы. Гэты абрад спраўлялі на 2-3 дзень Вялікадня ці ў першую нядзелю пасля яго.

***Хрэсьбіны (радзіны)*** – так святочна адзначалася з'яўленне ў сям'і дзіцяці.

Нараджэнне дзетак, асабліва ў беднай сям'і, не заўсёды было святам. Разам з тым гэтая падзея заўсёды адзначалася як свята. На другі-трэці дзень немаўлятка везлі ў Неманіцу хрысціць.

Існаваў звычай зваць на хрэсьбіны кума і куму, блізкіх і некаторых суседзяў. Каб запрасіць да сябе, пасылалі з сям'і хлапчука ці дзяўчынку адчыніць дзверы і сказаць: "Тата і мама просяць на радзіны!"

***Вяселле.*** Гэтае свята спраўлялі 3-4 дні. Спачатку вянчаліся ў царкве – толькі пасля таго шлюб лічыўся сапраўдным.

Існаваў цэлы шэраг абрадаў, звязаных з вяселлем. Кожны абрад суправаджаўся песняй дзяўчат. Запрашаліся на вяселле, як на хрэсьбіны. Таксама на вяселле хадзіла запрашаць нявеста ў падвянечным уборы.

На вяселлі спявалі адмысловыя песні. "Лявоніха" лічылася вясельным танцам. Звычайна яго выконвалі сталыя кабеты. Скакалі і пелі прыпеўкі.

***Хаўтуры*** – гэты сумны абрад заўсёды адбываўся з бацюшкам. Па нябожчыку чыталі псалтыр.

***Абжынкі*** – ставілі апошнія снапы. Адчувалася палёгка – гэта адбівалася ў песнях, якія спявалі пры тым.

***Навабранцы.*** Прызыў у царскае войска праходзіў увосень, пасля заканчэння палявых работ. У войска ішлі хлопцы, якім споўнілася 21 год. Развітваліся з вольным жыццём дома ў сваёй сям'і, сярод сваіх сяброў, сяброўак, а часам і жонак (хаця жаніліся да войска ў выключных выпадках).

Служылі доўга – у пяхоце 4 гады (перад першай імперыялістычнай вайной – 3 гады). Таму гулялі навабранцы ад душы. Маглі цёмным вечарам зняць у каго-небудзь браму, знесці і схаваць, а на другі дзень прынесці і паставіць на месца, папярэдне стрэбаваўшы з гаспадара пачастунак за знаходку брамы. Быў выпадак, калі навабранцы падняли ў кузні верхнія вянцы за рагі і паставілі наўскос. Зроблена гэта было позна вечарам – ніхто не бачыў.

Каваль здагадаўся, што гэта выбрыкі навабранцаў. Пасля магарыча кузня стала на сваё месца.

Але такія выхадкі ніколі не пераходзілі ў хуліганства, прынамсі ў сваёй вёсцы.

"Пеўневы запал" моладзі пераходзіў у бойку толькі ў другіх вёсках з "чужымі" хлопцамі.

Некаторыя навабранцы не хацелі ісці ў войска, у некаторых гэта было звязана з гаспадаркай, у некаторых – з каханай дзяўчынай. Яны тым ці іншым спосабам стараліся ўнікнуць службы ў войску. Адныя адкупаліся грашыма, другія калечылі сябе – пратыкалі вушы, а сыны каваля – збегалі ў Амерыку.

*І.Клімковіч*



*Крыж на месцы былой царквы на Барках, дзе на Пятроў дзень штогод ладзіліся набажэнствы. Праводзяцца яны на гэтым месцы і зараз*

# Вандроўка на "машыне часу"

*У часопісе "Наш край", які выдаваўся ў 20-30-х гадах XX стагоддзя захавалася шмат цікавых звестак пра гісторыю і тагачасны стан розных куткоў Беларусі. Нямала там было публікацый, якія былі звязаны з Барысаўшчынай. Яны вельмі цікава чыталіся ў свой час, цікавымі яны з'яўляюцца і для нас. Шмат з таго, што апісвалі тагачасныя краязнаўцы, ужо даўно знікла. І толькі на старонках часопіса яно як бы ажывае зноў.*

*Сёння вашай увазе прапануюцца нататкі вучняў чацвёртай школы г.Менска, якія былі напісаны імі пасля экскурсіі ў Барысаў і надрукаваны ў часопісе "Наш край" № 4 за 1929 год. Арфаграфія публікацыі захаваная.*

Уся раніца перад ад'ездам прайшла ў прысьпешаных зборах. Я канчаткова супакоіўся толькі пасьля другога званка, калі цягнік нячутна крануўся і станцыя паволь-на пачала хавацца за рамкай вакна.

Мы занялі свае месцы, склалі і падлічылі свае клумкі. Нас 10 чалавек, дзесяць дасьледчыкаў, якія адпраўляюцца ў першую вялікую экскурсію па родным краі.

Мы пад'яжджаем да Нова-Барысава ўжо на захадзе сонца. Захапіўшы свае мяшкі і кошыкі, мы ідом па Праспэкце Рэвалюцыі. Часовы прытулак мы знаходзім непадалёк ад вакзалу ў школе № 8. Мяшкі хутка валяцца на падлогу, але заставацца ў школе нікому ня хочацца, усіх вабіць незнаёмы горад. Ідом. Па абодвух баках вуліцы цягнуцца дамы, у большасьці драўляныя, аднапавярховыя, але сярод іх вылучаюцца вялікія каменныя будынкі яшчэ няскончаныя, наогул новых дамоў і яшчэ няскончаных у Нова-Барысаве шмат, здаецца, што ён увесь знаходзіцца ў працэсе будаваньня.

У надыходзячым змроку мы пасьпяваем агледзець вялікі ўзгорак, пакрыты густым хвойнікам і скрозь зрыты глыбокімі равамі — гэта акопы, вырытыя Аляксандрам I у 1812 годзе ў часе вайны з французамі. Цяпер на ўзгорку гарыць агонь, і чырвоныя языкі полымя асьвятляюць не французскіх кірасіраў, а барысаўскіх хлапчукоў. Шырокай істужкай блісканула рака. Гэта і ёсьць Бярэзіна, праз яе перакінуты два мярэжыстыя масты, упоперак ракі цягнецца шэраг ліхтароў, іх яскравы адбітак залацістымі пералівамі калыхаецца ў чорным аксаміце вады. Мы падыходзім да парахода. Дык вось ён які! Увесь белы, падобны да вялікай лодкі з круглымі вокнамі ўнізе, праз якія відаць сьвятло. З чорнай трубы цягнецца струмень дыму, ляніва падымаючыся да цёмнага неба. Ужо позна. Пацыху вяртаемся мы ў школу. Праз некалькі хвілін уся падлога ў клясным пакоі заслана коўдрамі. Мы рыхтуемся да начлегу. Хутка тухне электрычнасьць, але доўга яшчэ ня спыняюцца ціхія гутаркі і сьмех.

Раніцай мы з таварышом перш за ўсё бяжым на вакзал па гатаваную ваду. Калі мы вяртаемся з поўным чайнікам, нас сустракаюць гучным гура! Запраўды, гарбата ў экскурсіі самае галоўнае. За сьнеданьнем мы ажыўлёна абгавораем плян сёньнешняга дня. Часу ў нас мала, а трэба шмат што агледзець.

Дарога на папяровую фабрыку вядзе міма прыстані, ля якой стаяла некалькі лайб. Калі мы ўзышлі на борт лайбы, нас сустрэлі двое матросаў, з якімі мы і пачалі гутарку. Гэтая лайба належыць да Дзяржпараходзтва. Узімку яна стаіць у затоне і спыняе сваю працу ўвосень у кастрычніку. Лайба ўжо ня новая, яна мае 25 — 30 год, але на выгляд яна яшчэ моцная, гэта тлумачыцца тым, што яна пабудована з цьвёрдых матар'ялаў (дуба). Лайба галоўным чынам перавозіць дровы і зьмяшчае да 7000 пудоў цяжару. Проці вады лайба ідзе на буксіры, а за вадой без яго дапамогі.

За вадой лайба праходзіць пры добрым надвор'і ад 2 да 5 км. у гадзіну, а на буксіры значна больш — да 10 км. у гадзіну.

Каманда лайбы складаецца з 3 чалавек: двух матросаў і атамана. На карме і на перадзе лайбы пабудованы дзьве каюты: адна — для двух матросаў, другая — для атамана. У час нашай гутаркі вышаў з сваёй каюты стары атаман лайбы і запрасіў нас да сябе ў каюту. Мы ахвотна згадзіліся. Праз уваход у версе каюты мы па сходах зышлі ў самую каюту, яна мае ў аб'ёме ня больш 1 куб. сажня. Сьцены і столь каюты афарбаваны белай алейнай фарбай. Уздоўж сьцен пастаўлены: часовая печка, лаўка, невялічкі стол, столак для сядзеньня і ложак. Усюды надзвычайная чыстата і парадак.

Старэнькі атаман — Ягор Іванавіч Кастылёў радзіўся ў м. Радуль Чарнігаўскай губэрніі і ўсё сваё жыцьцё правёў на вадзе. "Я і радзіўся на вадзе, і жыву на вадзе, і бацька мой таксама жыў на вадзе", - кажа аб сабе Ягор Іванавіч.

Каманда лайбы, яе атаман і ўсё жыцьцё на лайбе наогул зрабіла на нас вельмі добрае ўражаньне.

Пасьля падрабязнага агляду лайбы мы накіраваліся на папяровую фабрыку „Профінтэрн". Фабрыка сустрэла нас бурчэньнем і грукатам мільгаючых колаў. У вялізным цыліндры выпарваюцца яловыя кругляки, з іх такім чынам вылучаюцца непатрэбныя часткі, якія перашкаджаюць вырабу паперы, адсюль выпараныя кругляки пераходзяць у драбільную машыну, з якой выходзяць у выглядзе разьмеленай драўлянай масы; праходзячы паступова ўсе стадыі апрацоўкі, яны выходзяць з апошняй машыны ў выглядзе жоўтай пакавальнай паперы, якая тут-жа на нашых вачох накручвалася на вялізныя шпулькі.

У гэты самы дзень мы аглядалі шкляную гуту і сярнічковую фабрыку "Чырвоная Бярэзіна". Найвялікшае ўражаньне на нас усіх ствapыла сярнічковая фабрыка, мы яшчэ ніколі ня бачылі гэткага буйнога прадпрыемства. Змораныя, але радыя вяртаемся мы ўвечары ў гасьцінную школу. Сёньня мы сьпім вельмі выгодна, т. Лісоўскі прыслаў нам паходны ложак, дыван і падушкі. Усе хутка засынаюць, і цішыню ў клясе парушае толькі гудзеньне аўтобуса і далёкія гудкі ці то цягніка, ці то парахода.

Трэці дзень у Барысаве мы прысьвячаем агляду гораду і вывучэньню заканаў у ім помнікаў старасьветчыны. Нашым

*(Заканчэнне на стар. 12)*

# Барысаў 100 год таму



Здымак пачатку XX стагоддзя паказвае тагачасную забудову Базарнай вуліцы (зараз – частка вуліца Дзяржынскага, яе скрыжаванне з вуліцай III Інтэрнацыянала). Большасць будынкаў захавалася да нашага часу. Злева – гандлёвыя рады. Двухпавярховы драўляны будынак справа не захаваўся. На яго месцы зараз знаходзіцца аднапавярховы драўляны атынкаваны дом. Наступныя аднапавярховыя і двухпавярховы будынак справа дайшлі да нашага часу. Далей справа бачны двухпавярховы будынак "присутственных мест" (да нядаўняга часу ў яго частцы быў ваенкамат).

# Вандроўка на "машыне часу"

*(Працяг, пачатак на стар. 11)*

кіраўніком зьяўляецца старшыня Барысаўскага раённага таварыства краязнаўства т. Самцэвіч. Мы праходзім Швэдзкую вуліцу, на якой у часе вайны Пятра I са швэдамі, стаяў швэдзкі абоз, мінаем штучна насыпаны ўзгорак, на якім некалі стаяў замак, а цяпер знаходзіцца выпраўдом і падымаемся на "батарэю" — галоўнае месца гуляньня жыхароў Барысава. У 1812 г. тут былі зроблены расійскія ўзмацненьні для таго, каб ня даць Наполеону пераправіцца праз Бярэзіну. Наогул, увесь Барысаў здаецца мне адным вялікім падручнікам па гісторыі. Аглядам каменнай акруговай больніцы, якая будуецца на "батарэі", канчаецца наша экскурсія па Барысаву. Мы дзякуем т. Самцэвіча і сьпяшаемся ў сталоўку абедаць.

У 3 гадзіны (14 чэрвеня) мы ад'яжджаем з Барысава. На прыстань нас праважае цэлая грамада вучняў 8-ай школы, шмат хто з іх дапамагае нам несьці нашыя пакункі і кошыкі. Здаецца мы захапілі іх сваімі краязнаўчымі настроямі. "Поўны ход", - крычыць капітан. Застукалі колы, параход плаўна рушыўся з месца. З берагу нам махаюць шапкамі.

Бывай, гасьцінны Барысаў!

## *Наша гасцёўня*

# Нараджэнне горада

*гістарычны абразок*

Люстраная гладзь ракі здавалася нерухомай – у гэтым месцы плынь Бярэзіны была павольная, спакойная. Шэрая чапля сядзела на корані абрынутай у ваду сасны, якая яшчэ трымалася за бераг другой часткай каранёў. Птушка нешта пільна выглядала (хутчэй за ўсё, мелкую рыбу). Але на гэты раз паляванне было няўдалым. Цішыню наваколля парушылі моцны ўсплёск вады і галасы людзей. Чапля ўзнялася і паляцела ў чаротавыя зараслі на правы бераг. Тым часам з-за лукі выплыў наспех звязаны плыт, на якім стаяла двое людзей.

Плыт быў невялікі – усяго восем дубовых слупкоў. Якраз на ніжнія вянкі паўзямлянкі. Падагнаўшы плыт да берага, малады хлопец саскочыў у ваду і прывязаў яго гнуткай лазінай да нахіленай сасны, з якой толькі што палявала чапля. Чалавек сярэдніх гадоў з незагоенай ранай на левай шчацэ, узняў вочы на ўзгорак, насупраць якога яны спыніліся, хацеў быў паклікаць на дапамогу людзей, што там капалі зямлю пад жытло і калодзеж. Але адтуль іх ужо і самі ўбачылі і спускаліся да вады.

* * *

На роўнай пляцоўцы ўзгорка стаяла некалькі зрубаў паўзямлянак, яшчэ без стрэх. Матэрыял для іх (вязанкі чароту) сушыўся на паўднёвым схіле ўзгорка. Асобнай кучай ляжалі пляскатыя камяні, што насілі з недалёкага ляда на печкі. Да паўночна – ўсходняга схілу прытулілася невялікае возера. На яго беразе стаяла кузня. Побач пад лёгкім навесам тулілася ганчарная майстэрня. Ля аднаго зруба курэла вогнішча: дзве жанчыны варылі на абед рыбную пахлёбку. Спажывай для агню былі трэскі, на якіх чырванелася засохшая кроў.

* * *

Толькі месяц таму на правым беразе ракі, якраз насупраць узгорка, ішла крывавая сеча. Дружына князя Барыса вяла бой з жыхарамі балцкага горада, які здаўна стаяў тут. Балты абараняліся мужна, многія, трацячы апошнія сілы, сцякаючы крывёю, абдымалі дубы, сосны: развітваліся з жыццём. Але сілы былі няроўныя. Праз суткі ўсё было скончана: горад спалілі, узялі вялікі палон. Па дзяржаўных справах князь Барыс з дружынай узяў кірунак на Друцк. Перад гэтым загадаў на левым беразе Бярэзіны, насупраць знішчанага горада балтаў, узвесці ў свой гонар і для кантролю над навакольнымі землямі новы горад.

* * *

Пад самы вечар чапля прыляцела з прыбярэжных чаротаў на аблюбаваную даўно сасну. Але паспела злавіць толькі некалькіх дробненькіх плотачак. Яе спалохалі галасы некалькіх дзесяткаў чалавек, што пасля цяжкай, утомнай работы прыйшлі да ракі змыць салёны пот. Сюды яна больш наўрад ці вернецца: занадта шумным рабілася гэтае месца. Яно і не дзіва – тут, на крывіцкай зямлі, узнімаўся новы горад.

* * *

Ад нараджэння Хрыста ішоў 1102 год.

*І.Белы*

*Д.Самойленка*

### Даруй мне, Госпадзі...

**Даруй мне, Госпадзі Праміла,
Што да Цябе я быў глухім.
Цяпер прашу перад магілай:
Даруй шматлікія грахі.**

**О Госпадзі! Я – сын заблудны.
Прашу Цябе перад судом:
У дзень Страшэнны, дзень той судны
У свой прымі бацькоўскі дом.**

**Даруй грахі мае, Усявышні,
Душою грэшнаю прашу.
Не дай, каб я ў раі быў лішнім.
Ратуй, Гасподзь, маю душу.**

**Пачуй мяне, Доўгацярпліві
І многалітасцівы цар.
Даруй даўгі ў жыцці імклівым,
Сусвету Праведны Ўладар.**

**Дзе ёсць Гасподзь, там ёсць Свабода,
Надзея, Вера і Любоў,
Там праўда, мір сярод народаў,
Квітнее згода між сабой.**

### Цягнікі

**Бягуць яны бес перастанку
Удзень, уранні і ўначы,
Паціху з станцый і паўстанкаў
Бяруць разгон удалячынь.**

**Бягуць яны у спёку, холад,
І груз, і радасць везучы,
З сялом зближаюць хутка горад,
Ляцяць, імчацца ўдалячынь.**

**Спытаў яе на развітанне:
"Чаго смуткуеш і аб чым?
Няўжо аб тым, што на світанні
Гудок апошні прагучыць?**

**А мо аб ранні светлым марыш,
Што будзе кветкамі цвісці,
Калі, як рэйкі, дружна ў пары
З табой мы пойдзем па жыцці?"**

**Адказ твой радасцю сцвярджальнай
Мяне абдаў, як гарачынь:
Я еду з той пары ў шлях дальні
З надзеяй сэрца ўдалячынь.**

### Пераправа ў 1812 годзе

**Задрыжэла, як грудзі, зямля.
Затрашчала Брылёўскае поле.
Па ваколіцах страх загуляў,
Загарэлася бітва за волю.**

**Смерць гула па-над полем, ракой,
Кроў з рачной вадою муціла.
Колькі ты тут на вечны пакой
Чужаземцаў, рака, прытуліла?**

**Загадаўшы спаліць тут жа мост,
Праз рубеж перабраўшыся водны,
Імператар рашыў кінуць пост
І салдат, азвярэлых, галодных.**

**Ля Студзёнкі згубіў ён азарт
І ранейшую громкую славу.
Апрануўшы кажух, Банапарт
Драпу даў, нібы воўк ад аблавы,**

**Бо падняўся ўвесь дружна народ,
Аслабляў ён варожую сілу,
І знайшоў тут няпрошаны збрoд
Кроў і ганьбу, палон і магілу.**

### За рулём

**У шафёра лёс поўны падзей
І жыццё, нібы песня.
У дарозе ён кожны дзень
І зімою, і напрадвесні.
Прабівае снягоў крышталь,
Толькі б выканаць зноў заданне,
Мчыць, пятляе дарога ўдаль,
І расце хваляванне.
А прыпомніць парой красу
Сваёй жонкі ці проста каханай,
Ён адгоніць няпрошаны сум,
Як хмурынкі ад сонца ранак.
Будзе слухаць, як цішыня
Разрастаецца гулам матораў...
Нібы гімны, вёрсты звіняць
І дрыжаць, як слязінкі, зоры.**

# Упрыгожым нашу Зямлю?

**"О зямля, зямля, зямля!
Слухай слова Гасподне".**
(Ярэмія, 22:29)

"На пачатку стварыў Бог нябёсы і зямлю". З гэтых слоў пачынаецца Кніга Жыцця – Біблія.

Ці ўсведамляем мы, людзі XXI стагоддзя, што зямля, на якой мы жывём, створана раней чалавека? І ўсё, што расце і жыве на ёй, таксама было раней. І што сам Творца так ацаніў сваё тварэнне:

"І бачыў Бог усё, што ўчыніў, і вось добра вельмі ёсць…"(Быццё, 1:31).

Унікальная планета ў неабсяжным, бясконцым Сусвеце! Блакітнай жамчужынай называюць Зямлю тыя, хто бачыў яе з космасу.

**Айчына светлая,
Зямелька родная,
Тварэнне Боскае
Непаўторнае!**

Бог, які ёсць Любоў, як у калыску памясціў чалавека ў цэнтры зямлі. І даручыў яму быць гаспадаром над усімі Божымі тварэннямі.

Які цудоўны план – быць гаспадаром незвычайнай прыгажосці і незлічоных багаццяў! Жыві, чалавек, карыстайся, памнажай, радуйся.

Але чаму ж мне сёння так нярадасна? Чаму горка і балюча? Чаму я – чалавек, якому Бог даручыў сваё цудоўнае тварэнне, якому даў права быць гаспадаром і ўладаром яго, - у роспачы і страху? Зямля – карабель, на якім чалавецтва тысячагоддзямі плыло ў акіяне Сусвету, - гіне. І прычынаю гэтага, як ні горка казаць, з'яўляецца сам чалавек.

Што ж адбылося з ім, створаным па вобразу і падабенству Божаму? Чаму ён стаў разбуральнікам, рабаўніком, знішчальнікам і прыгажосці, і багацця зямнога? Якая страшная бяда здарылася з чалавекам?

Для самой сябе я знайшла адказ на гэтыя пытанні. Чалавек страціў свой Боскі пачатак, імя якому Любоў. Чалавек жыве на зямлі, не любячы яе. Ён перастаў быць гаспадаром - стваральнікам, а стаў спажывальнікам-эгаістам. І марнымі будуць намаганні звяртацца да яго з заклікам упрыгожым нашу зямлю. Пакуль не палепшыцца экалогія душы чалавечай, не палепшыцца і экалогія зямлі.

Калі чалавек не "ўпрыгожыць" сваю душу Любоўю, Міласэрнасцю і Спагадаю, то як ён можа ўпрыгожыць зямлю. Калі душа не мае гэтых якасцей, яна – мёртвая. Якую прыгажосць можа стварыць чалавек з мёртвай душой?!

Мне здаецца, што зараз наступіў час, які можна назваць "ноччу чалавецтва".

**Жахлівай ноччу
Тысячы людзей
Ідуць,
брыдуць
і падаюць
Пад ногі.
Сляпы вядзе сляпых,
Нямы вядзе глухіх,
Знямога,
Вечнасць,
Гарыць свечка…**

…Люблю глядзець на неба.

На ім такія цудоўныя воблакі-авечкі, з ружовымі "пузікамі", белыя, пухнатыя.

Неба дае мне веру і надзею. Хочацца на ўвесь голас крыкнуць: "Людзі, давайце вылечым нашы душы Любоўю, упрыгожым іх Міласэрнасцю і Спагадаю!"

Толькі тады, калі адродзяцца нашы душы, будзе надзея ўбачыць "новае неба і новую Зямлю, бо ранейшае неба і ранейшая Зямля мінулі"…(Адкрыццё Яна Багаслова, 21:1).

*К.Цяліпка, гімназія №2*



# Энтузіяст працоўнага навучання

Амаль усё свядомае жыццё Маслоўскага Міхаіла Лявонцевіча звязана з СШ № 10. Тут ён вучыўся, як ж закончыў у 1966 годзе. Пасля службы ў арміі (1967 – 1969 гады) вярнуўся ў родную школу. Без адрыву ад работы ў 1980 – 1985 гадах закончыў Мазырскі педінстытут імя Н.Крупскай. Пасля камандзіроўкі ў МНР (1986 – 1990 гады) на адзін навучальны год узначаліў педкалектыў роднай школы, а потым зноў стаў займацца галоўнай справай свайго жыцця: вучыць дзяцей быць умелымі і рупнымі гаспадарамі.

Абсталяванне майстэрні, у якой многія гады шчыруе Міхаіл Лявонцевіч, даўно набытае, тыповае, але акрамя станкоў і верстакоў тут многа розных плакатаў, шматлікія стэнды і паліцы, што запоўнены самымі рознымі работамі вучняў. Кідаецца ў вочы, што большасць работ з дрэва. Гэта і не дзіва. Па-першае, матэрыял даступны, па-другое, з яго можна зрабіць безліч не толькі карысных, але і вельмі прыгожых рэчаў.

Міхаіл Лявонцевіч лічыць, што ў навучанні самае важнае так арганізаваць навучальны працэс, каб дзеці захацелі вучыцца. За многія годы настаўніцтва сваё ўмельства і багацце душы ён перадаў не адной сотні вучняў. Ён імкнецца знайсці для кожнага адмысловы падыход, каб дабіцца актыўнасці і самастойнасці, развіць закладзеныя ў кожным здольнасці і творчы пачатак. Каб зацікавіць сваіх вучняў далейшай работай, ён прапануе ім арыгінальныя праекты. К слову, на працягу многіх гадоў у дзяцей вялікай папулярнасцю карыстаюцца тэмы, што звязаны з вырабам кухонных набораў. І як вынік, на гарадскіх алімпіядах па тэхналогіі (так цяпер называецца ранейшы прадмет "тэхнічная праца") першыя месцы займаюць вучні СШ № 10. Для тых вучняў, якія жадаюць быць сапраўднымі гаспадарамі ў доме, Міхаіл Лявонцевіч вядзе гуртак "Мастацкая апрацоўка драўніны".

Вучні Міхаіла Лявонцевіча і яго калегі Сташкевіча Міхаіла Канстанцінавіча аказваюць вялікую дапамогу ў рамонце школьнай мэблі і абсталявання кабінетаў.

Самаадданая творчая работа Маслоўскага даўно заўважана і высока адзначана. Акрамя шматлікіх дыпломаў і грамат ён узнагароджаны медалём "За працоўную доблесць" і медалём ВДНГ СССР у 1972 годзе. З усіх узнагарод Міхаіла Лявонцевіча хацелася б выдзеліць адну – дыплом "Майстар – залатыя рукі".

*Б.Раскоша*



# Месца, дзе любяць і могуць працаваць

*Напрыканцы мінулага года на базе 10 сярэдняй школы адбыўся семінар для кіраўнікоў гарадскіх школ па працоўнаму выхаванню вучняў.*

Невыпадкова ён прайшоў менавіта ў гэтай навучальнай установе. Тут любяць і могуць працаваць. Выстава, якую падрыхтаваў калектыў школы да семінара, уразіла прысутных сваёй разнастайнасцю і майстэрствам.

Такія выставы, на якіх бацькі, шэфы школы і ўсе зацікаўленыя знаёмяцца з творчасцю вучняў, сталі ў школе традыцыйнымі і праходзяць два разы на год.

У школе працуе чатыры гурткі: "Мастацкая апрацоўка драўніны" (кіраўнік Міхаіл Лявонцевіч Маслоўскі), "Масцярок" (кіраўнік Сташкевіч Сяргей Канстанцінавіч), "Гаспадынька" (кіраўніца Цімашэнка Галіна Рыгораўна) і гурток мягкай цацкі і вышыўкі пад кіраўніцтвам Сплендэр Галіны Мікітаўны.

Назвы гурткоў кажуць самі за сябе. Хлебніцы, кухонныя дошкі, сальніцы, качалкі, рамачкі для карцін, забаўныя лялькі, вышыванкі – усё гэта выканана з густам і на высокім узроўні. Уражваюць і абуджаюць фантазію працы, зробленыя ў тэхніцы нітачнага дызайну. А якія цудоўныя абрусы вышываюць дзяўчаты з 10 школы!

Гэтыя творы (а інакш іх і нельга называць) выконваюцца як на занятках гурткоў, так і на звычайных уроках працы. Нярэдка ў творчасці прымаюць удзел і бацькі, напрыклад, дапамагаюць нанесці малюнкі на дошкі, якія потым распісваюць дзеці. Шэфы з дрэваапрацоўчага камбіната "Камінтэрн" забяспечваюць школу матэрыяламі, што значна пашырае магчымасці для творчасці.

Стваральны настрой, гонар за добра выкананую працу вядзе і да лепшых вынікаў у авалоданні іншымі школьнымі навукамі, аб'ядноўвае настаўнікаў, вучняў і бацькоў у адзін дружны калектыў.

*Служба інфармацыі "ГБ"*



*Творы школьнікаў, якія былі прадстаўлены на выставе падчас семінара ў СШ 10*

# Страчаная магчымасць

Да 900-годдзя Барысава можна было б здзейсніць шмат карысных для горада праектаў, якія ў штодзённым жыцці цяжка рэалізаваць. Напрыклад, у нас няма ніводнай выставачнай залі, якая была б прыдатна для прадстаўлення каштоўных збораў. Таму сур'ёзныя выставы наш горад і мінаюць. Чаму б да юбілею горада не зрабіць для яго жыхароў падарунак і не пабудаваць сучасную залю, у якой бы можна было б праводзіць якія заўгодна выставы.

На жаль, сродкі, што вылучаюцца на падрыхтоўку да юбілея горада, не падкантрольны грамадскасці і далёка не заўсёды расходуюцца аптымальна.

*В.Стэфановіч*

# Друцкія карані і галіны майго радаводу

**(Працяг, пачатак у № 10 - 12 за 2001 г.)**

Вельмі помняцца нашы сумесныя паходы з дзядзькам у грыбы. Як вядома, Астроўкі і асабліва Герасімаў хутар спрадвеку славіліся і славяцца зараз баравікамі. Мы браты, чатыры хлопцы (яшчэ раз напомню: Валера, Валодзя, Міша, Жэня) спаборнічалі: хто больш знойдзе баравікоў. Галоўным арбітрам і, як сёння яшчэ б сказалі, фундатарам цікага ляснога палявання на магнатаў-баравікоў заўсёды выступаў дзядзька Валодзя. І калі вызначаўся пераможца і яму з рук арбітра даставаўся галоўны прыз - сцізорык-складнік, радасці нашай і дзядзькавай таксама не было канца. Хаця, як я разумею сягоння, і карысць з гэтага для дзядзькі была немалой: дзядзька з гонарам вёз у сталіцу шэсць ці сем соцень баравікоў, што потым там кансерваваліся і сушыліся. Дарэчы, у мяне асабіста з тых дзіцячых гадоў так і засталася прывычка заўсёды хадзіць па лесе, збіраць баравікі і адразу ў памяці весці іх падлік.

Напрыклад, самымі ўраджайнымі на баравікі ў Астроўках былі 1980 і 2000 гады. Дваццаць год таму за восем ранкаў у лесе я сабраў ажно 1300 баравікоў. А ў мінулым годзе я, Янка і мой пляменнік Сяргей з-пад Давыд-Гарадка за два ранкі і адзін надвячорак прынеслі з Герасімавага хутара больш чым васемсот баравікоў.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

*У.Лайкоў*



# Выстава Альшэўскага

*Пятага студзеня ў выставачнай зале цэнтральнай гарадской бібліятэкі адкрылася выстава карцін Віктара Альшэўскага.*

Віктар Альшэўскі нарадзіўся 21 верасня 1953 года ў вёсцы Вугольшчына Магілёўскай вобласці. У 1972 годзе скончыў Рэспубліканскую школу – інтэрнат па музыцы і выяўленчаму мастацтву, у 1980 годзе – Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, у 1984 годзе – творчую майстэрню АН СССР у Менску. Вучыўся ў Г.Вашчанкі, В.Нямцова, М.Савіцкага.

В.Альшэўскі з'яўляецца з 1980 года ўдзельнікам шматлікіх мастацкіх выстаў. Працуе ў станковым жывапісе ў жанрах фігуратыўнай карціны, партрэта, нацюрморта. Яго работы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі, музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, фондах Беларускага саюза мастакоў, Трацякоўскай галерэі ў Маскве, галерэях "Speclrum" (Нямеччына), "Rylkesgullerief" і "BiZ" (Нарвегія) і ў іншых месцах.

Віктар Альшэўскі з 1984 года з'яўляецца сябрам Беларускага саюза мастакоў. Жыве ў Менску.

*С.Чарнуха*






Каманда па міні-футболу Барысаў-900 на трэніроўцы

# Спартыўны агляд

**Футбол**

14 студзеня ў футбалістаў БАТЭ скончыўся адпачынак. Да 27 студзеня яны будуць трэніравацца ў Дудзінцы. Потым пройдуць тры замежныя зборы: у Турцыі (Анталья) – 2-16 лютага, Польшчы (Вангровец) – 3-14 сакавіка і там жа 24 сакавіка – 4 красавіка. Завершаць падрыхтоўку да першынства Беларусі зборы ў Дудзінцы, якія адбудуцца з 6 па 12 красавіка. Само першынство пачнецца з 14 красавіка.

* * *

На паседжанні Беларускай федэрацыі футбола было прынята рашэнне аб адхіленні менскага арбітара Віктара Мацюшава ад абслугоўвання матчаў першынства Беларусі 2002 года. Прычынай таму была памылка суддзі ў матчы БАТЭ – Шахцёр. У гэтай гульні ён не прызначыў напрыканцы гульні пенальці ў вароты салігорцаў, які павінен быў быць. Калі б не гэта памылка, магчыма, нашы футбалісты змаглі б быць у першынстве на месца вышэй.

* * *

У наступным сезоне ў складзе каманды БАТЭ будзе гуляць Вадзім Скрыпчанка, які летась гуляў у эліцсцінскім "Уралане".

* * *

Футбольны клуб БАТЭ заключыў кантракт з лепшым паўабаронцам першынства Беларусі Ігарам Чумачэнка.

**Міні-футбол**

Тэхнапрыбор (Магілёў) – Барысаў-900, 2:7 (Бакун 5, Басацкі 9, Кералідзі 33, Спірыдонаў 33, Круглік 38, Свядыш 39).

Гульня была роўнай амаль да яе канца. За сем хвілін да яе канца лік быў 2:2. Галы Кералідзі і Спірыдонава змаглі пераламіць гульню на карысць Барысава-900. У выніку барысаўцы атрымалі ўпэўненую перамогу.

* * *

16 снежня адбыўся матч ВСАШ-21 – Барысаў-900, 2:2 (Ларыёнаў 38, Круглік 39).

У гэтай гульні барысаўцам у чарговы раз прыйшлося прадэманстраваць свой характар. Ініцыятыва з пачатку гульні была на баку гаспадароў, якія на 8-й хвіліне адкрылі лік. На 25-й хвіліне пасля контраатакі гаспадары змаглі падвоіць лік. Выратаваць становішча барысаўцы змаглі толькі пасля таго, як быў зняты бранмік. Гэта дазволіла зраўняць лік у гульні.

* * *

Барысаў-900 – ДФЗ (Добруш), 15:5 (Ларыёнаў 2,6, Спірыдонаў 7, 14, 40, Круглік 24, 25,26, Паўлавец 23, 39, Бакун 30, Кералідзі 32, Басацкі 38, 39).

Першая палова гульні прайшла ў роўнай барацьбе. На перапынак каманды пайшлі пры ліку 4:4. Другая частка гульні прайшла пры поўнай перавазе гаспадароў пляцоўкі. Барысаўцы больш валодалі мячом, часцей білі па варотах. Нягледзячы на тое, што нашы хлопцы забілі 11 мячоў, гэта не адпавядае той перавазе, якая была на самой справе. Апошнія чатыры хвіліны госці зусім спыніліся.

Цяпер у першынстве наступіў перапынак да 23 лютага.

* * *

У снежні – студзені 2001-02 гадоў у барысаўскім спорткамбінаце праходзіў турнір па міні-футболу памяці І.Зайцава. У ім прыняў удзел 31 калектыў.

У фінальную частку турніра выйшла пяць каманд: ПЧ-2, завод медпрэпаратаў, Жодзіна, РЗ-140, СП Камака-плюс. Па заканчэнні спаборніцтва першай была каманда ПЧ-2, другой каманда завода медпрэпаратаў, трэцяй РЗ-140.

**Баскетбол**

На жаночым першынстве Беларусі па баскетболу адбыліся матчы Руор (Менск) – Бярэзіна (Барысаў), 61:82, 58:72.

У гэтых матчах барысаўчанкі атрымалі ўпэўненую перамогу над Руорам, які з'яўляецца аўтсайдэрам турніра.

* * *

На мужчынскім першынстве Беларусі па баскетболу адбыліся матчы Папірус – Лакаматыў-2 (Віцебск), 101:83, Папірус – Спартак-2 (Гомель), 70:115, Папірус – РШВСМ (Менск), 89:49.

* * *

У Барысаве ў межах алімпійскіх дзён моладзі прайшло першынство Менскай вобласці па баскетболу сярод дзяўчат і хлопцаў 1985 – 1988 года нараджэння.

Тутэйшыя хлопцы перайгралі сваіх аднагодкаў з Маладзечна 62:37, Нясвіжа 35:30, Салігорска 62:60 і выйгралі турнір.

Барысаўскія дзяўчаты выйгралі ў аднагодак з Салігорска 39:22, Капыля 31:21 і прайгралі Вілейцы з лікам 11:35. У выніку барысаўчанкі занялі другое месца.

**Валейбол**

16 снежня ў залі спорткамбіната завяршыўся другі гарадскі турнір памяці барысаўскіх валейбалістаў Віталія Гудзіліна і Мікалая Котава. Першае месца сярод мужчын заняў рамонтны завод № 140, другое – каманда РАУС, трэцяе – каманда падатковай інспекцыі.

Сярод жанчын мацнейшымі былі прадстаўнікі ГАРАА. Другой была каманда рамонтнага завода № 140, трэцяй – ПТВ № 205.

Сярод ветэранаў перамагла каманда рамонтнага завода № 140, другімі былі прадстаўнікі гарвыканкама, трэцімі – прадстаўнікі ВА "Экран".

* * *

У складзе каманды СКА (Менская вобласць) выступае барысавец Аляксей Кужаль.

**Гімнастыка**

На спартакіядзе Менскай вобласці сярод моладзі 1985 года нараджэння выхаванцы барысаўскай ДЮСШ-1 былі пераможцамі па трох нумарах праграмы, яшчэ ў сямі выпадках барысаўцы занялі прызавыя месцы.

Сярод дзяўчат у групе кандыдатаў у майстры спорту першае месца заняла Вольга Бараўля, другое – Таццяна Жукоўская. Сярод дзяўчат у групе II разрада першай была Алеся Сілкіна, другой – Вольга Прыгажаева, трэцяй – Марына Рогава. Сярод дзяўчат у групе I юнацкага разрада першай была Таццяна Кулеш, другой – Ліза Вашэсюк, трэцімі – Насця Бітэль і Надзя Супрун.

Сярод хлопцаў у групе I юнацкага разрада другім быў Павел Ледвіг, трэцім – Мікалай Панамароў.

**Цяжкая атлетыка**

26-30 снежня ў Менску праходзіла першынство Беларусі па цяжкай атлетыцы сярод ДЮСШ. На ім каманда барысаўскай ДЮСШ алімпійскага рэзерва заняла першае агульнакаманднае месца.

У сваіх вагавых катэгорыях першымі былі барысаўцы: Вячаслаў Малашанка (вагавая катэгорыя 32 кілаграмы), Уладзімір Круцько (вагавая катэгорыя 36 кілаграмаў), Уладзіслаў Машоўскі (вагавая катэгорыя 69 кілаграмаў).

Сярод барысаўцаў другое месца ў сваёй вагавай катэгорыі – 90 кілаграмаў – заняў Аляксандр Кусікбаеў. Дзміцер Міхалюк (вагавая катэгорыя 36 кілаграмаў) і Андрэй Конан (вагавая катэгорыя 72 кілаграмы) былі трэцімі.

Старшым трэнерам спартсменаў з'яўляецца Міхаіл Мікалаевіч Саландзер.

**Бокс**

У канцы снежня – пачатку студзеня ў Барысаве прайшоў традыцыйны навагодні турнір па боксу сярод школьнікаў. У наш горад на спаборніцтвы прыехалі спартсмены з Глыбокага, Менска (ДЮСШ-7, Менская абласная школа), Жодзіна і Крупак.

Першыя месцы ў сваіх вагавых катэгорыях сярод барысаўцаў занялі: Павел Ржэуцкі, Кірыл Макарэвіч, Антон Мяшаеў (усе – СШ 11), Андрэй Казлоўскі (СШ 20), Саша Шыбалка.

*Падрыхтаваў С.Чарнуха*

# Погляд заўзятара

Добры дзень, "Гоман Барысаўшчыны"!

Мне вельмі падабаецца ваша газета, і я лічу, што яна лепшая газета на Барысаўшчыне. Я заўсёды з захапленнем чытаю цікавыя гістарычныя матэрыялы, змешчаныя на яе старонках. Але асаблівую ўвагу я звяртаю на спартыўную старонку, бо мне асабліва падабаюцца агляды гульняў барысаўскага БАТЭ. Таму я хацеў бы выказаць свае думкі наконт мінулага футбольнага сезона. На мой погляд, ён атрымаўся вельмі цікавым і затрымліваў увагу заўзятараў футбола да апошняга тура.

Цяжка сказаць, ці можна занесці ў актыў вынікі сезона. Галоўная мэта не была дасягнута – медалі залатой пробы паехалі ў Бабруйск, ды і атрымаць "срэбра" не ўдалося (якое, між іншым, дазволіла б у наступным годзе ўдзельнічаць у кубку УЕФА). З гэтага пункту гледжання сезон можна было б назваць толькі правальным. Але ці такім ён быў на самой справе? Не будзем забываць, што бронзавыя медалі – гэта білет у кубак УЕФА-Інтэртота. Турнір не самы прыемны для грандаў еўрапейскага футбола, але выдатная школа для маладых гульцоў БАТЭ. Дарэчы, БАТЭ – самая маладая каманда вышэйшага дывізіёна Беларусі, але здолела абысці ў турнірнай табліцы такія клубы, як "Шахцёр", "Гомель" і "Славія", якія ў асноўным укамплектаваны гульцамі больш сталага ўзросту. Апошні сезон стаў стартавай пляцоўкай для выдатных барысаўскіх юнакоў: Дзмітрыя Малаша, Віталя Панасюка, Аляксандра Кабца, а таксама Алега Аляшкевіча і Арцёма Канцавога. Усё гэта – паказчык добрага выніку зімовай селекцыі, якая была праведзена ў клубе. Безумоўна, трэба адзначыць, што былі і расчараванні. Як, напрыклад, з Уладзімірам Таранам. Гэты сапраўды таленавіты нападнік з жодзінскага "Тарпеда" не здолеў прабіцца ў асноўны склад БАТЭ. Але будзем спадзявацца, што яго час прыйдзе ў наступным сезоне.

Разумеючы гэтыя факты, трэба памятаць і пра тое, што ў маладога калектыва ёсць і свае недахопы. Самы відавочны з іх – адсутнасць вопыту і нестабільнасць, якая вынікае з яго. Лепш за ўсё гэта праявілася ў знакамітым хатнім матчы супраць "Тарпеда-МАЗ", калі ў першым тайме лік быў 2:0, а ў другім покер Кутузава і гол Лагуна прынеслі яскравую перамогу 5:2. Не будзем забываць яшчэ і той факт, што вялікая група гульцоў БАТЭ з'яўляецца сябрамі маладзёжнай зборнай краіны. Таму не толькі стомленасць ад міжнародных сустрэч, але і праблемы зборнай не лепшым чынам уплывалі на гульню барысаўцаў.

Увогуле, дзве сустрэчы ў гэтым сезоне моцна выпадаюць з агульнага шэрагу гульняў. Гэта, безумоўна, двухраўндавая гульня супраць знакамітага "Мілана" ў Менску на стадыёне "Дынама" і на "Сан-Сіра". Гэтыя матчы пакінулі глыбокае ўражанне. І справа не толькі ў агульным буйным ліку 0:6, а ў самім факце сустрэчы з сапраўднымі зоркамі футбола. Вось дзе прыйшлося пашкадаваць аб маленькай колькасці месцаў на родным гарадскім стадыёне. Гэта і адсутнасць штучнага асвятлення адыгралі сваю негатыўную ролю. А вось менскія аматары гульні нумар 1 моцна расчаравалі. Пятнаццаць тысяч чалавек на гульні такога ўзроўню – проста смешная лічба. А калі адняць ад яе колькасць барысаўцаў, што прысутнічалі на матчы (каля шасці тысяч), то колькасць сапраўдных фанатаў у паўтарамільённым Менску, можна сказаць, зусім імкнецца да нуля.

Пасля менскага матча стала вядома аб самым гучным трансферы не толькі барысаўскага, але і беларускага футбола: Віталь Кутузаў, адзін з лепшых бамбардзіраў першынства, капітан маладзёжнай зборнай Беларусі і сапраўдны лідэр БАТЭ, адпраўляецца ў знакаміты міланскі суперклуб. Разам з ім на Апеніны ад'язджае і Віталь Рагожкін, каб паспытаць шчасця ў "Сіене" з серыі "Б". У суме з ад'ехаўшым пасля першага круга Леанідам Лагуном каманда згубіла ўсіх сваіх лідэраў, якія вялі яе ўсё першынство. Ці мэтазгодна было адпускаць лідэраў напрыканцы сезона, калі наперадзе былі самыя складаныя і важныя сустрэчы? Бадай, не. Але ўладальнікі каманды зрабілі сапраўды мужнае і справядлівае рашэнне. Па ўсім было бачна, што Кутузаў і Рагожкін перараслі ўзровень нацыянальнага першынства, а продаж іх у адзін з клубаў Расіі, як і ў выпадку з Васілюком, не выглядаў вельмі добрым. Тым больш, што ў Італію двойчы не клічуць...

Пасля ад'езду гульцоў адразу стала зразумела, як моцна яны ўплывалі на гульню БАТЭ. Ніводны з вопытных гульцоў – ні Аляксандр Ермакевіч, ні яго цёзка Лісоўскі, ні Уладзімір Нявінскі не здолелі ў поўнай меры стаць сапраўднымі лідэрамі каманды. Але будзем спадзявацца, што наступны сезон прынясе жоўта – блакітным доўгачаканае золата.

Як я ўжо казаў, "Гоман Барысаўшчыны" – сапраўды выдатная газета, але ёсць над чым ёй працаваць. Не будзем забываць пра тое, што футбольныя падзеі не заціхаюць і ўзімку. Таму не дрэнна было б зрабіць старонку, прысвечаную футбольным навінам, у якой магчыма было б змяшчаць аналітычныя матэрыялы, трансферныя навіны, факты з гісторыі футбола на Барысаўшчыне, аналіз выступленняў "Гайны" і футбольнага складу БАТЭ і шмат іншага. Гэта было б вельмі цікава.

Жадаю газеце новых перамог і новых выдатных рэпартажаў у новым годзе.

*А.Вашкевіч*



# Спартыўнае свята

22 снежня ў 18-й і 2-й школах адбылося спартыўнае свята, у якім актыўны ўдзел прынялі вучні абедзвюх навучальных устаноў. Школы спаборнічалі паміж сабою ў наступных дысцыплінах: валейбол, міні-футбол, баскетбол, спартландыя і інш. У выніку перамагла другая школа з лікам 5:2.

Вялікую падтрымку ў правядзенні спаборніцтваў аказалі кіраўнікі школ Іван Юр'евіч Белы і Галіна Іванаўна Новік. Спансіравала свята ДЭУ-3.









*Эмблемы - пераможцы конкурса*

# Конкурс эмблемаў

26 снежня ў цэнтры юных турыстаў прайшоў конкурс на лепшую эмблему. У ім прынялі ўдзел вучні, якія ў ім займаюцца. Пасля азнаямлення з імі журы, у працы якога прымаў удзел і прадстаўнік нашай газеты, вызначыла пераможцамі наступных вучняў.

Першае месца заняла работа гуртка пад кіраўніцтвам Е.У.Баярынай (злева). Другое месца заняла работа гуртка пад кіраўніцтвам В.А.Ефіменка (у цэнтры). Трэцяе месца было дадзена рабоце гуртка пад кіраўніцтвам В.М.Расоха (справа).

*С.Чарнуха*

# Юныя турысты

*У будынку былой школы № 5, які знаходзіцца па вуліцы Рэспубліканскай, 4, ужо дзесяць год існуе цэнтр юных турыстаў. Тут працуюць гурткі: пешаходнага турызму, велатурызму, коннага турызму, альпінізму, воднага турызму і інш. Станцыя мае адпаведным чынам абсталяваныя кабінеты. Галоўная мэта цэнтра – падрыхтоўваць здаровых дзяцей для грамадства.*

У лістападзе – снежні цэнтрам было праведзена шмат паходаў выхаднога дня. Хлопцы і дзяўчаты раніцай выходзілі ў паход і вечарам вярталіся дадому. Такія невялікія вандроўкі дазваляюць адпрацоўваць турыстычнае майстэрства. У паходах адпрацоўваліся пераправы, для чаго нацягваліся вяроўкі паміж дрэвамі. Хлопцы і дзяўчаты вучыліся знаходзіць найлепшыя месцы для разбіўкі лагера. Вывучаліся розныя віды кастроў, спосабы транспарціроўкі тых хто пацярпеў.

У снежні ў цэнтры юных турыстаў прайшлі спаборніцтвы сярод гурткоўцаў. Іх першы тур прайшоў у Вуглах, другі – у Печах.

У першым туры ў групе "Г" (тыя, хто толькі пачынаюць) сярод хлопцаў першым быў В.Праховіч, другім – В.Богдан, трэцім – В.Конан (кіраўнік гуртка Яўграфаў С.К). Сярод дзяўчат першай была А.Скаўронская (кіраўнік гуртка Ефіменка У.А.), другой – Ярцава, трэцяй – А.Гарбачова (кіраўнік гуртка Стрыжонак В.А.).

У другім туры сярод хлопцаў першым быў С.Лашко (кіраўнік гуртка Малькіна К.І.), другім – Д.Драніцкі, трэцім – Д.Байкоў (кіраўнік гуртка Дзень-Добры У.Л.). Сярод дзяўчат першай была Г.Сцяпанава (кіраўнік гуртка Сцяпанава Г.Е.), другой Н.Малькіна (кіраўнік гуртка Малькіна К.І), трэцімі былі А.Лінкевіч і Н.Шынкірава (кіраўнік гуртка Ефіменка У.А.).

У групе "Б" (больш сталыя турысты) у першым туры сярод хлопцаў першым быў Захарэвіч, другім – Шынкевіч, трэцім – Робак (кіраўнік гуртка Яўграфаў С.К.).

У другім туры першым быў Алісевіч, другім – Мярэжна (кіраўнік гуртка Стрыжанок В.А), трэцім – Шышла (кіраўнік гуртка Бузо В.І).

У групе "Б" сярод дзяўчат першай была К.Гнот, другой В.Аксянова (кіраўнік гуртка Яўграфаў С.К), трэцяй – В.Амбросава (кіраўнік гуртка Папкоў В.М).

* * *

За час зімовых канікул цэнтр юных турыстаў здзейсніў пешыя вандроўкі і вандроўкі на лыжах у Печы, Перасады, Дымкі, Дудзінку, Вялікае Стахава, Старабарысаў, да рэк Пліса і Сха, а таксама ў Менск.

*С.Чарнуха*

# Госць нумара

*У сённяшнім нумары Вам прапануецца гутарка карэспандэнта нашай газеты з трэнерам каманды па міні-футболу Барысаў-900 Міхаілам Шклянковым.*



**Чыя была ідэя стварыць у Барысаве каманду па міні-футболу?**

Апошнія тры гады ў абласных спаборніцтвах каманды барысаўскіх прадпрыемстваў па міні-футболу займалі першыя месцы. Таму з'явілася ідэя паспрабаваць сябе на больш высокім узроўні. Такім чынам узнікла каманда "Барысаў-900" і ўключылася ў барацьбу ў першай лізе першынства Беларусі.

**Якія мэты мае каманда на сённяшнім этапе свайго развіцця?**

Перад пачаткам першынства камандзе ніякіх мэтаў ніхто не ставіў. Галоўнае – набрацца вопыту. Але пасля першага круга, згуляўшы восем гульняў, нікому не прайграўшы і заняўшы першае месца, на сходзе каманды самі гульцы і кіраўніцтва клуба паставілі перад сабою мэту выйсці ў вышэйшую лігу. Гэта было б добрым падарункам для горада ў сувязі з яго 900-годдзем.

**Каго з гульцоў каманды Вы адзначылі б па выніках першага круга?**

Каманда абараняе гонар горада. Для любога гульца выступаць за яго зборную – гэта вельмі вялікі давер. Не ў маіх правілах вызначаць лепшых або дрэнных гульцоў. Мы адна каманда, адзін калектыў, у якога адна гульня можа атрымацца лепей, а другая – горш. Але мы ўсе адно цэлае. Не можа быць добрых гульцоў у матчы, які прайграны. Калі каманда па выніках першага круга займае першае месца, значыць, гульцы выступаюць паспяхова. Усё астатняе – гэта асобныя моманты, і выносіць смецце з хаты непатрэбна.

**Ці ідзе работа з моладдзю, якая заўтра будзе гуляць у камандзе?**

У сучасны момант у камандзе сабраны ўсе ці амаль усе мацнейшыя футбалісты горада. Першапачаткова было задумана стварыць каманду з выхаванцаў барысаўскага футбола. Я пастаянна сачу за выхаванцамі мясцовай ДЮСШ, спадзяюся на сувязі з трэнерамі. Калі я заўважу перспектыўных хлопцаў, адразу пачну прыцягваць іх да трэніровачнага працэсу.

**Якія бліжэйшыя планы каманды?**

У перапынках паміж першым і другім кругамі праводзіцца кубак Беларусі па міні-футболу з удзелам усіх мацнейшых каманд краіны. Як вышэйшай, так і першай лігі. Наша каманда таксама прыме ўдзел у гэтых спаборніцтвах. З лютага пачнецца другі круг першынства краіны ў першай лізе. Ён стане сур'ёзным выпрабаваннем камандзе ў рэчышчы пастаўленых ёй мэт, а менавіта ў заваяванні пуцёўкі ў вышэйшую лігу.

**Тады застаецца пажадаць поспехаў камандзе.**

Дзякуй.

*Гутарку вёў С.Чарнуха*

## Табліца з вынікамі першага круга першынства Беларусі па міні-футболу

| Каманда | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Барысаў-900 (Барысаў) | 8 | 6 | 2 | 0 | 65:27 | 20 |
| 2. Прамень (Гарадок) | 8 | 6 | 0 | 2 | 46:34 | 18 |
| 3. Эканаміст (Менск) | 8 | 5 | 0 | 3 | 27:31 | 15 |
| 4. Энергетык (Новалукомль) | 8 | 4 | 2 | 3 | 50:45 | 14 |
| 5. ВСАШ-21 (Менск) | 8 | 4 | 1 | 3 | 39:35 | 13 |
| 6. ДФ-3 (Добруш) | 7 | 2 | 2 | 3 | 50:54 | 8 |
| 7. Тэхнапрыбор (Магілёў) | 7 | 2 | 0 | 5 | 32:39 | 6 |
| 8. Агат (Жлобін) | 8 | 1 | 2 | 5 | 34:58 | 5 |
| 9. ЦКК-2 (Светлагорск) | 8 | 0 | 0 | 8 | 17:37 | 0 |

**Г** - гульняў, **В** - выйграна, **Н** - нічыіх, **П** - паразаў, **М** - колькасць забітых і прапушчаных мячоў, **А** - ачкі.

# Парады ад Наталлі

### Мазурак з грэцкіх арэхаў

Расцерці адну шклянку цукру з двума яйкамі дабяла. Пакласці адну шклянку раздробленых грэцкіх арэхаў, адну шклянку прамытых разынак, адну чвэрць чайнай лыжкі соды і адну шклянку мукі (у апошнюю чаргу). Усё перамяшаць. Намазаць форму маслам, выліць у яе цеста і паставіць у духоўку. Пячы 20-30 хвілін пры тэмпературы каля 200°С. Разрэзаць гарачым.

### Струцаль з макам

Прыгатаваць здобнае дражджавое цеста. Раскачаць яго на стале ў ценькі пласт. Пакласці на яго мак, і ўсё скруціць у рулон. Пячы пры тэмпературы 180-200°С. Гатоўнасць выпечкі праверыць калком.

Для цеста трэба ўзяць 0,5 л цёплага малака, 4 яйкі, 50 г дрожджаў, 200 г сметанковага масла, 0,5 сталовай лыжкі алею, 2 шклянкі цукру і драбок солі. Дрожджы размяшаць у малой колькасці цёплага малака. Усё змяшаць і добра ўзбіць. Можна дадаць ваніліну або ванільнага цукру. У гэтую масу падсыпаць сухую, свежа прасеяную муку. Колькасць мукі будзе бачна па кансістэнцыі цеста. Мяшаць цеста датуль, пакуль не пачне адставаць ад рук. Потым накрыць і паставіць у цёплае месца. Калі яно падыдзе, абмяць і зноў на непрацяглы час пакінуць у цяпле.

Для прыгатавання начынкі мак трэба 2-3 разы абдаць варам, расцерці з цукрам або мёдам, пасля адціснуць з яго лішнюю ваду. Для лепшага смаку можна дадаць у запараны мак крыху міндалю.

# Смачна есці і больш рухацца

Кажуць, паправіцца шмат лягчэй, чым пасля пахудзець. Пра гэта не варта забывацца, бо спакусаў з'есці чарговы ласунак заўсёды шмат. А патрэбная сутачная дастатковасць складае ў сярэднім 2800 кілакалорыяў (жанчыны) і 5200 ккал. (мужчыны).

Тым часам 2 шакаладныя цукеркі (25г.) "дораць" нам 110 ккал, шклянка малака або маленькая булачка - 105, два пірожныя і кубачак салодкай кавы ці чаю - 400 ккал.

Скінуць лёгкадумна набытыя калорыі напраўду складана. Каб уявіць, якія гэта павінны быць намаганні, варта прывесці колькі прыкладаў энергетычных выдаткаў у ккал. за 1 гадзіну пры выкананні розных відаў дзейнасці. Скажам:

калі стаім - 105
шпацыруем - 200
хутка ідзем - 500
бяжым - 570
плаваем - 500
падымаемся па лесвіцы - 1100

А цяпер параўнайце. І - добрага ўсім здароўя!

*М.Пучыла*

# З гаспадарчага дзённіка Ганны Цюндзявіцкай

### Як адбельваць пажоўклыя вырабы са слановай і іншай косці

У гліняную пасудзіну з вадой сыплюць адну шостую частку нягашанай вапны, кладуць вырабы і ставяць на агонь. Яны мусяць кіпець, пакуль не пабялеюць. Тады здымаюць з агню, а як вада астыне, дастаюць іх і паліруюць.

Іншы спосаб. У халоднай вадзе разводзяць некалькі лотаў галыну, затым, закіпяціўшы, знімаюць з агню і ў яшчэ гарачую вадкасць кладуць вырабы з косці. Праз гадзіну вымаюць, абціраюць шарсцяной хусткай, укручваюць у якую рэчы і даюць ім яшчэ паляжаць некаторы час.

### Чым залепліваць расколіны ў печы

Звычайная гліна сохне і трэскаецца, таму яе неабходна развесці ў салёнай вадзе ці дадаць клейстар з жытняй мукі і чвэрць попелу. Замясіўшы, залепліваюць атрыманай замазкай расколіны. Яны ўжо ніколі не лопнуць.

*М.Пучыла*

# Забытыя гульні

### Канцэрт жывёлаў

Адзін з гульцоў выбіраецца за кіраўніка хору і становіцца ў сярэдзіну. Затым ён абыходзіць усіх і назначае кожнаму быць якою-колечы жывёлаю. Па ўзмаху палачкі ўсе павінны крычаць, пераймаючы тых жывёлаў, якімі яны названыя. Па знаку кіраўніка канцэрт спыняецца, але звычайна музыкі не вытрымліваюць доўга і заліваюцца рогатам.

# Крыжаванка

*складзена па матэрыялах гэтага нумара*

**Па гарызанталі:** 1 – вёска на Барысаўшчыне; 2 – фотаатэльe ў Барысаве на пачатку XX стагоддзя; 3 – вёска, прадмесце Барысава; 4 – рака на Барысаўшчыне; 5 – рака на Барысаўшчыне; 6 – вёска на Барысаўшчыне; 7 – частка Барысава; 8 – рака на Барысаўшчыне; 9 – былы кляштар у Зембіне; 10 – трэнер каманды па міні-футболу Барысаў-900; 11 – вёска на Барысаўшчыне; 12 – вёска на Барысаўшчыне, 13 – мікрараён Барысава, былая вёска; 14 – вуліца ў Барысаве; 15 – фотаатэлье ў Барысаве на пачатку XX стагоддзя; 16 – вёска на Барысаўшчыне.



**Адказы на крыжаванку**, што змешчана ў "ГБ" № 12(33): 1 - Хацкевіч; 2 - Бярэзіна; 3 - Жыцькава; 4 - Горкага; 5 - Аліскевіч; 6 - Грошы; 7 - Пагадзіца; 8 - Фамальгаўт; 9 - Кураж; 10 – Лошніца; 11 – Крычына; 12 – Чапаева, 13 – Відарыс, 14 – Траянаўка, 15 – Бытча.

# Лічбавая крыжаванка

*Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.*

**10:** 65720053509, 75262456210;
**7:** 1102002, 1249751, 1607985, 1792002, 2002002, 2048677, 2849247, 3496313, 3789421, 3895461, 4195416, 4468729, 5189422, 6721581, 6873217, 8141379, 8164186, 8198420, 9487586;
**5:** 10291, 12345, 29232, 36424, 58921, 59234, 67890, 74071, 76515, 79639;
**4:** 1697, 2642, 3435, 3649, 4761, 4891, 6878, 7941, 8018, 9461, 9486, 9497;
**3:** 174, 250, 274, 300, 365, 366, 399, 424, 548, 575, 599, 632, 655, 672, 699, 711, 724, 741, 784, 886, 942, 968, 976;
**2:** 12, 13, 15, 17, 27, 48, 51, 64, 70, 72, 77, 79, 85, 87, 97, 99.




### Адказы на загадкі

1. Печ, полымя, дым.
2. Замок.
3. Стол.
4. Качарга.
5. Карамысел з вёдрамі.
6. Венік.
7. Бязмен.
8. Вядро ў студні.
9. Сякера за поясам.
10. Піла.
11. Гузік.
12. Соль.

Адказы на японскую і лічбавую крыжаванкі, што былі змешчаны ў "ГБ" № 12(33)



*Жыццё цудоўнае!*



## Загадкі з роднай хаткі

1. Маці - таўстуля, дачка - красуля, а сын - перабор, выскачыў на двор.
2. Не брэша, не кусае, а ў хату не пускае.
3. У нашай малодачкі чатыры калодачкі.
4. Чорны конь лезе ў агонь.
5. Дзве галачкі сядзяць на адной палачцы.
6. Мяне з дрэва паламалі, потым лыкам абвязалі. Ну, а я і не сумую ды па хаце ўсё танцую.
7. Нос кручком, сам худ, а галава з пуд.
8. На той свет ідзе - скача, а з таго свету ідзе - плача.
9. У лес ідзе - дамоў глядзіць, дамоў ідзе - у лес глядзіць.
10. Хутка грызе, дробна жуе, сама не глытае.
11. Маленькі Данілка ў пяцельку ўдавіўся.
12. Што ў вадзе родзіцца і ў вадзе расходзіцца?

*(адказы - знізу старонкі)*

## Ці ведаеце вы, што...

У **1908** годзе чыгуначная станцыя Барысаў мела:

**2** пасажырскіх будынкі (адзін з якіх мураваны);
**2** пасажырскія платформы (адна пры будынку і адна міжпуцявая);
**2** таварныя платформы (адна крытая і адна адкрытая);
**1** таварны пакгаўз;
**16** жылых дамоў (8 тыпу казармаў, 8 іншых);
**19** хлявоў;
**9** лядоўняў і склепаў;
**1** мураваная лазня;
**1** прыёмны пакой;
**1** мураваны хлеў для цягнікоў;
**5** крамаў і складоў (сярод іх як мураваныя, так і драўляныя);
**4** тэлеграфных апараты;
**50** стрэлак;
**1** вадаёмны будынак;
**1** кузня;
**1** майстэрня (слясарная і сталярная);
**1** шпалапрапітны завод.

# Японская крыжаванка

У японскай крыжаванцы неабходна адгадаць не словы ці размяшчэнне лічбаў, а выяву. Лічбы паказваюць, колькі груп чорных клетак знаходзяцца ў адпаведным радку або слупку і колькі суседніх чорных клетак утрымлівае кожная група. Групы падзелены паміж сабою не менш чым адной пустой клеткай. Пустыя клеткі могуць быць і па краях поля.



ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.

Рэдактар М.Мацельскі

Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1

Наклад 3000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 21.55 14.01.2002 г.
Замова № 450
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33
e-mail: gomanbar@irex.minsk.by

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*